№13-14(37-38)
Ліпень 1999

# ПРАВА НА ВОЛЮ

Бюлетэнь Праваабарончага Цэнтру "Вясна—96"



# ПА-ЗА ЗАКОНАМ

## З 20 ліпеня Аляксандр Лукашэнка стаў ня проста былым першым прэзідэнтам Беларусі і дыктатарам, а ўзурпатарам улады

Усе пяць гадоў свайго кіраваньня краінай А. Лукашэнка толькі тое і рабіў, што імкнуўся з дапамогай сваіх указаў, дэкрэтаў, законаў, рэферэндумаў вынішчыць у Беларусі ўсё беларускае: мову, гісторыю, культуру, нацыянальныя сімвалы, сьвяты...

За сваю шматпакутную гісторыю Беларусь зьведала нямала цяжкіх часоў, але, бадай, ніводзін захопнік-прыхадзень не паводзіў сябе на нашай зямлі гэтак нахабна і агрэсіўна, як першы ўсенароднаабраны прэзідэнт незалежнай дзяржавы Беларусь. Нават самую незалежнасьць сваёй краіны ён скарыстаў дзеля цынічнага гандлю з суседняй Расіяй з мэтай выгадаць сабе больш лёгкае праходжаньне на расійскі "прастол". Дзіўна, але як ужо неаднойчы падкрэсьлівалася, менавіта сам "галоўны інтэгратар" стаў асноўнай прычынай таго, што расійскія палітыкі не пайшлі на аб'яднаньне з Беларусьсю хоць і карцела ім далучыць да сябе дзяржаву-калідор у Эўропу. Доўгі час яны рабілі выгляд, што не заўважаюць (зрэшты, сітуацыя мала зьмянілася і цяпер) шматлікіх парушэньняў правоў чалавека ў Беларусі, не заўважаюць, што ў турмах па сфабрыкаваных справах сядзяць вязьні сумленьня, што рэжым Лукашэнкі па сутнасьці стаў выразна аўтарытарным, што ён жорстка распраўляецца з любымі выступленьнямі апазіцыі, што манапалізаваў электронныя сродкі масавай інфармацыі, што вядзе сваю краіну назад у камуністычнае пекла...

Аднак, сталася так, што і расійскія ўлады, і расійская апазіцыя аказаліся ў аднолькавай ступені зацікаўленымі ў тым,

(Працяг на стар. 7)

## Хроніка

***26 чэрвеня*** **на гарадзкім рынку г.Оршы супрацоўнікамі міліцыі быў затрыманы старшыня Свабоднага прафсаюзу прадпрымальнікаў г. Оршы і Аршанскага раёну Аляксандр Сталяроў. А.Сталяроў распаўсюджваў на рынку анкеты сацыялагічнага апытаньня. У анкетах былі пытаньні: "Ці падтрымліваеце вы Свабодны прафсаюз?", "У якой форме вы гатовыя падтрымаць яго патрабаваньні — мітынгі, забастоўкі, пікеты, грошы?", Як вы лічыце, паляпшаюць ці пагаршаюць эканамічнае становішча Беларусі шчыльныя кантакты з Расіяй?", "Вашыя адносіны да ідэі прэзідэнта Лукашэнкі пра аб'яднаньне Беларусі і Расіі ў адну дзяржаву?" Участковы інсьпектар рынку даставіў затрыманага А.Сталярова ў гарадзкі адзьдзел міліцыі, дзе яму паведамілі, што ягонай справай будзе займацца Камітэт дзяржаўнай бясьпекі. А.Сталярова адпусьцілі, бо была субота, а ў суботу ў КДБ — выходны дзень.**

***29 чэрвеня*** **актывісты Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны ў Міхайлаўскім скверы сталіцы Беларусі правялі пікетаваньне пад лозунгамі: "Беларускую мову — у вышэйшую школу!", "Спыніць русіфікацыю" і "Пачні з сябе — гавары пабеларуску!". Падчас пікету вёўся збор подпісаў за адкрыцьцё нацыянальнага універсітэту, а таксама супраць задумы ўладаў перайменаваць галоўную вуліцу сталіцы — прасьпект Францішка Скарыны. Апошняя акцыя зьвязаная з тым, што прэзідэнт Лукашэнка ў адным са сваіх выступленьняў заявіў, што прасьпекту, які раней насіў імя Леніна, а цяпер — беларускага першадрукара, які жыў у 16-ым стагодзьдзі, трэба даць "дэпалітызаваную назву", напрыклад, Перамогі...**

(Працяг на стар. 14-15)

# Паэты ў няволі не жывуць?..

## Старшыня Саюза беларускіх пісьменьнікаў Уладзімір Някляеў вырашыў застацца на Захадзе

У ісьцінасьць навіны, што вядомы паэт, старшыня Саюза беларускіх пісьменьнікаў, рэдактар "элітарнага" часопіса "Крыніца" Уладзімір Някляеў, які паехаў па творчых справах у Польшчу, думае застацца там і зьбіраецца прасіць палітычнага прытулку, доўгі час ніхто не хацеў верыць. І асабліва тыя, хто ведаў У. Някляева найперш як літфункцыянера, набліжанага да ўладаў. Прынамсі, прэзідэнт Беларусі А.Лукашэнка сваіх сімпатыяў да знакамітага паэта-песеньніка (на песьнях якога прайшла ягоная маладосьць) ніколі не ўтойваў. Варта сказаць, што і сам паэт руку сяброўства, якую працягвалі яму ўлады не надта адштурхоўваў, і нават атрымаў з рук прэзідэнта Дзяржаўную прэмію краіны за мінулы год. Словам, здавалася, што адносіны паэта і ўладаў былі калі не ідылічнымі, дык блізкімі да гэтага. І тут такая вестка: У. Някляеў застаецца на эміграцыі, у Беларусь не вяртаецца...


Уладзімір НЯКЛЯЕЎ

Праз колькі дзён у газеце "Народная воля" зьявіўся артыкул У. Някляева, у якім ён выступіў з даволі жорсткай крытыкай вядомага змагара з беларушчынай, віцэ-прэм'ера ўраду Уладзіміра Замяталіна і патлумачыў сваю пазіцыю. З артыкула вынікала, што невяртаньне У. Някляева з творчай камандзіроўкі ёсьць вынік ягонай даўняй барацьбы з "шэрым кардыналам" і бліжэйшым дарадцам А. Лукашэнкі. У. Замяталін ня мог дараваць паэту некалькіх вострых выступленьняў супраць яго і ягонай антыбеларускай палітыкі ў галіне культуры, ня мог дараваць, што старшыня СБП ня стаў паслугаваць і падпяваць уладам, а праводзіў сваю незалежніцкую палітыку, пасьлядоўна адстойваў інтарэсы роднай зямлі, мовы, культуры, адкрыта выступіў супраць інтэграцыі з Расіяй... Аднак шлях барацьбы У. Замяталін выбраў не палітычны: вырашыў зрабіць з Някляева ледзь не крымінальнага злачынцу. З канца мінулага году рэдакцыю часопіса "Крыніца" адна за адной пачалі наведваць фінансава-рэвізійныя камісіі з праверкамі. У рэшце рэшт, яны "назьбіралі" пэўную колькасьць парушэньняў "фінансавай дысцыпліны", што нібыта рабіліся ў рэдакцыі. Някляеву паведамілі ў Варшаву, што сабранага "кампраматы" якраз хапае на арышт. І ён прыняў рашэньне пакуль застацца ў Польшчы.

Напрыканцы чэрвеня ў той жа "Народнай волі" было надрукаванае інтэрв'ю У. Някляева, у якім, здавалася б канчаткова былі растаўленыя ўсе кропкі над "і". Працытуем выняткі з яго: "Адкрыта па палітычных матывах у нас яшчэ не саджаюць, — сьцьвярджае У.Някляеў, — пачынаюцца фінансавыя праверкі, трэба чалавека падвесьці пад артыкул, каб паказаць усім, што бунтуе не чалавек, у якога ёсьць свае погляды, а крымінальнік... Пра вяртаньне дамоў пакуль ня можа быць і размовы... Я цяпер плачу па асабістых рахунках. Плачу растаньнем з роднымі, з сябрамі... Плачу за набліжанасьць да ўлады, за ілюзіі..."

Для ўладаў жаданьне вядомага паэта і старшыні СБП застацца ў эміграцыі, безумоўна, стала ўдарам пад дых. Зьнянацку, нечакана. Але, да іх гонару, апамяталіся яны даволі хутка і павялі разумную гульню з паэтам. Па-першае, падуладным сродкам масавай інфармацыі быў аддадзены загад не друкаваць ніякага "негатыву" на Някляева, па-другое, у Польшчу адзін за адным паехалі "ганцы" з мэтай угаварыць яго вярнуцца на радзіму "пад чэснае слова" У. Замяталіна, што крымінальная справа супраць яго ня будзе ўзбуджаная. І падобна на тое, што нешта зварухнулася, бо У. Някляеў раптам даў у Саюз пісьменьнікаў факс, у якім паведаміў, што працягвае яшчэ на месяц свой адпачынак у Польшчы з мэтай паправіць здароўе... Словам, на сёньня канчатковага пацьвярджэньня, што паэт застаецца на Захадзе, пакуль няма. Зрэшты, прычынай гэтага хутчэй за ўсё можа быць ня пэўная нерашучасьць У. Някляева, а тое, што пра сваё рашэньне папрасіць палітычнага прытулку ў Польшчы ён заявіў не адразу пры перасячэньні мяжы, як таго патрабуе закон, а амаль праз тыдзень пасьля гэтага.

Зразумела пакуль адно: вяртацца дамоў паэту пад самыя прыгожыя абяцаньні ўладаў небясьпечна. Ведае гэта і ён сам. У тым жа інтэрв'ю "Народнай волі" ён сказаў: "Я хоць і хворы, але не на галаву. Віньнікава (старшыня Нацбанка, якая праз амаль паўтары гады пасьля арышту за "фінансавыя парушэньні", што пракуратуры так і не ўдалося даказаць, прапала з-пад варты "без вестак" — *рэд.*) знаходзілася за мяжою, калі было прынятае рашэньне пра яе арышт. Ёй перадалі зьвестачку: ну што ты, Тамара, мы цябе любім, цэнім, чакаем не дачакаемся, ты у нас тут кандыдат у прэм'ер-міністры. Яна вярнулася, і цяпер яе няма нідзе..."

**Алесь ЧАС**

# Дзяржкамдрук трымае "Имя" пад прыцэлам

Напрыканцы чэрвеня папярэджаньне ад Дзяржаўнага камітэта па друку атрымала рэдакцыя незалежнай газеты «Имя». Гэта ўжо другая праява пільнай ўвагі да рэдакцыі ўладаў з пачатку бягучага года. Першы раз Дзяржкамдрук папярэдзіў «Имя» ў сярэдзіне лютага за артыкул галоўнага рэдактара Ірыны Халіп пра выбары прэзідэнта Беларусі 16 траўня.

На гэты раз прычына незадаволенасьці чыноўнікаў – рэпартаж пад назвай «Фестываль, падобны на «Кінатаўр». У матэрыяле сьцьвярджаецца, што падчас правядзеньня кінафестывалю расійскі горад Сочы наведваў без залішняга шуму прэзідэнт Беларусі. Удзельнікі «Кінатаўра» з ліку расійскай інтэлігенцыі, па словах аўтара газеты «Имя», меркавалі пры зьяўленьні на фестывалі нікім не запрошанага, але вядомага сваёй нахабнасьцю Лукашэнкі дружна пакінуць залу. Дзяржкамдрук Беларусі не бярэцца аспрэчваць ступень «павагі» інтэлігенцыяй (у тым ліку расійскай) кіраўніка нашай дзяржавы. Дзяржкамдрук настойвае на такой версіі падзеяў, што Лукашэнка ня езьдзіў у Сочы наогул.

Галоўны рэдактар газеты і аўтар згаданага рэпартажу Ірына Халіп паведаміла, што мае доказы і сьведкаў, якія пацьвярджаюць выкладзеныя ў матэрыяле пра «Кінатаўр» факты. Спадарыня Халіп ня выключыла ў нашай гутарцы магчымасьці звароту рэдакцыі ў суд. Адзначым, аднак, безвыніковасьць апошніх спробаў рэдакцыяў дэмакратычных выданьняў судзіцца з Дзяржкамдрукам. Зыск «Имени» могуць нават не прыняць, затое два папярэджаньні за такі кароткі тэрмін пакідаюць газеце "шанц" неўзабаве быць зачыненай уладамі. Нагадаю, што ў падобным жа становішчы знаходзіцца яшчэ адно незалежнае выданьне – «Навіны». Паводле дзеючага Закону «Аб друку і іншых СМІ», пры атрыманьні рэдакцыяй двух папярэджаньняў на працягу года выхад у сьвет друкаванага органа можа быць «прыпынены».

**Таццяна СЬНІТКО**

# Міхаіл ПАСТУХОЎ:
# "Тэрмін паўнамоцтваў прэзідэнта Беларусі скончыўся 20 ліпеня..."


Міхаіл ПАСТУХОЎ

*Міхаіл Пастухоў – былы судзьдзя Канстытуцыйнага Суда Рэспублікі Беларусь. Калі ў канцы лістапада 1996 году стала зразумела, што спроба імпічменту прэзідэнту Лукашэнку скончыцца паразай, судзьдзя Пастухоў прынцыпова застаўся пры сваім "асобным" меркаваньні. Зараз Міхаіл Іванавіч узначальвае Фонд праваой падтрымкі СМІ. Але нашая гутарка напярэдадні 20 ліпеня датычылася не праблемаў свабоды слова на Беларусі, а метадаў, якімі Лукашэнку ўдалося працягнуць сабе тэрмін прэзідэнцтва.*

***— Міхаіл Іванавіч, сканчаецца тэрмін паўнамоцтваў першага прэзідэнта Беларусі. Але Лукашэнка з гэтым ня згодзен і з прэзідэнцкай пасады сыходзіць не зьбіраецца. Паводле беларускага заканадаўства, які механізм пераходу ўлады прадугледжаны ў падобнай сітуацыі, якімі нарматыўнымі актамі ён вызначаны?***

— Паводле Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, прынятай 15 сакавіка 1994 году, тэрмін паўнамоцтваў прэзідэнта вызначаны адназначна і дакладна – пяць гадоў. Пра гэта гаворыцца ў артыкуле 97. Прычым гэты тэрмін адлічваецца з моманту прынясеньня прэзідэнтам прысягі, паводле якой ён клянецца "служыць народу Рэспублікі Беларусь, выконваць Канстытуцыю і законы Рэспублікі Беларусь". Усім вядома, што першы прэзідэнт Рэспублікі Беларусь, уступаючы на пасаду, прынёс прысягу 20 ліпеня 1994 году. Значыць, тэрмін яго паўнамоцтваў павінен скончыцца роўна праз пяць гадоў — 20 ліпеня гэтага года. І Канстытуцыя 94-га году не прадугледжвае падаўжэньня тэрміну паўнамоцтваў прэзідэнта ні пры якіх абставінах. Гэтыя ж палажэньні пацьвярджаюцца ў Законе "Аб Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь", прынятым у сакавіку 1994 году. Тыя ж самыя словы запісаны там.

Паводле новай рэдакцыі Канстытуцыі, прэзідэнт Рэспублікі Беларусь захоўвае свае паўнамоцтвы. Тэрмін ягоных паўнамоцтваў адлічваецца "з дня ўступленьня ў сілу дадзенай Канстытуцыі". У такім выпадку паўстае пытаньне: а якая ў нас Канстытуцыя "дадзеная"? Юрысты прэзідэнта, якія рыхтавалі новую рэдакцыю Канстытуцыі, зыходзілі з таго, што ўсё ж гэта ня новая Канстытуцыя, а ўсяго толькі зьмяненьні і дапаўненьні ў Канстытуцыю 1994 году. Гэта значыць, асноўнай Канстытуцыяй застаецца Канстытуцыя 94-га году. Нават у такой няўдалай фармулёўцы новай рэдакцыі Канстытуцыі атрымліваецца, што тэрмін прэзідэнцкіх паўнамоцтваў не падаўжаецца. Хоць, з іншага боку, у адным з артыкулаў утрымліваюцца словы ў дужках, што менавіта новая рэдакцыя і ёсьць "дадзеная". Такім чынам, атрымліваецца некаторае двоечытаньне...

***— Так, але, калі паглядзець на артыкул 144 – там не ўказаны дакладны тэрмін паўнамоцтваў прэзідэнта. Ні пяць гадоў, ні сем, ні дзесяць...***

— Цалкам слушна. Гэта значыць, што тэрмін паўнамоцтваў застаецца ранейшым — пяць гадоў. Акрамя таго, трэба адзначыць, што "Заключныя пераходныя палажэньні" не зьяўляюцца складальнай часткай Канстытуцыі. Яны заўсёды выходзяць за дужкі Канстытуцыі. Звычайна прымаецца закон аб парадку ўступленьня ў сілу Канстытуцыі. Як гэта было, напрыклад, пры прыняцьці Канстытуцыі 94-га году, калі заканадаўчы орган улады пацьвярджае, што гэткім чынам уступае ў сілу гэтая Канстытуцыя. Асаблівасьць "прыняцьця" новай рэдакцыі Канстытуцыі палягае ў тым, што яна нават не была зацьверджаная Вярхоўным Саветам. Яна была зацьверджаная прэзідэнтам. Ёсьць гэтаксваны закон "Аб рэспубліканскім рэферэндуме 24 лістапада 1996 году ў Рэспубліцы Беларусь" – "закон" ад 26 лістапада, у той дзень ён падпісаны прэзідэнтам. Сто тры дэпутаты Вярхоўнага Савету, сабраўшыся ў Адміністрацыі прэзідэнта, канстатавалі, пацьвердзілі, што "24 лістапада ў Рэспубліцы Беларусь адбыўся абавязковы рэспубліканскі рэферэндум". Але гэта ніякае не рашэньне. Што значыць пацьвердзіць? Вярхоўны Савет павінен зацьвердзіць вынікі рэферэндуму – гэтага не было. Што таксама ставіць пад сумнеў вынікі таго рэферэндуму. Вось бюлетэнь для галасаваньня на рэспубліканскім рэферэндуме, у якім у заўвазе наўпрост сказана, што "ў адпаведнасьці з заключэньнем Канстытуцыйнага Суда ад 4 лістапада 1994 году рэферэндум з галасаваньнем па пытаньнях зьмяненьняў і дапаўненьняў Канстытуцыі можа насіць толькі рэкамендацыйны характар". Гэта азначае, што ўсе грамадзяне Беларусі галасавалі менавіта за папраўкі Канстытуцыі як усяго толькі рэкамендацыі, якія ў далейшым павінны былі быць прынятыя за аснову Вярхоўным Саветам і ва ўстаноўленым парадку прынятыя. Але, тым ня менш, гэтае палажэньне было груба парушанае. Зафіксавана і мноства іншых парушэньняў, дапушчаных напярэдадні, у перыяд і нават пасьля рэферэндуму, што, на мой погляд, дазваляе сьцьвярджаць: вынікі рэферэндуму зьяўляюцца з прававога пункту погляду нікчэмнымі, ім нельга верыць, і як наступства гэтага – нельга прызнаць у якасьці легітымнай новую рэдакцыю Канстытуцыі, у адпаведнасьці з якой нібыта працягнуты паўнамоцтвы прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

***— Мне здаецца, што перад тым рэферэндумам, калі праект Канстытуцыі абмяркоўваўся, нямногія зьвярнулі ўвагу на мажлівае падаўжэньне тэрміну паўнамоцтваў прэзідэнта. На тле іншых парушэньняў гэтае, напэўна, здавалася нейкай дробязьзю?***

— Я згодзен з вамі, што мала, напэўна, знайшлося людзей – нават юрыстаў, — якія пачыталі гэтую новую рэдакцыю Канстытуцыі. І я не выключаю, што распрацоўшчыкі гэтай Канстытуцыі маглі ўносіць і папраўкі, і нейкія яшчэ зьмены і пасьля таго, як быў прапанаваны праект Канстытуцыі. Гэта яшчэ адно сьведчаньне таго, што грамадзяне галасавалі неасэнсавана за новую рэдакцыю Канстытуцыі.

***— Што адбывалася ў лістападзе 1996 году за сьценамі Канстытуцыйнага Суда (фактычна мы ўсе бачылі толькі зьнешні бок падзеяў)?***

— Вядома, і ў Канстытуцыйным Судзе адчувалася тая напружаная абстаноўка, якая склалася ў той час у краіне. Дзеяньні прэзідэнта прывялі да таго, што сасьпелі ўжо і фактычныя, і прававыя падставы для таго, каб паставіць і вырашыць пытаньне аб імпічменце. І 19 лістапада ранкам Юры Захаранка прынёс нам у Канстытуцыйны Суд, у прыёмную старшыні Валерыя Ціхіні заяву-зварот 73 дэпутатаў Вярхоўнага Савета, якія прапанавалі Канстытуцыйнаму Суду разгледзець пытаньне аб парушэньні прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь Лукашэнкам Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь.

У гэты час мы знаходзіліся ў прыёмнай разам з адным з судзьдзяў. Мы

*(Працяг на стар. 4-5)*

# "Тэрмін паўнамоцтваў прэзідэнта Беларусі скончыўся 20 ліпеня..."

*(Пачатак на стар. 3)*

хацелі зайсьці да старшыні, але памочнік нікога не прапускаў да яго. На нашае пытаньне, хто ў яго там, ён адказваў: "Стары сябра". Мы прыходзілі, сыходзілі, недзе гадзіны паўтары мы не маглі патрапіць да старшыні. Гэта быў беспрэцэдэнтны выпадак, паколькі па справах мы заўсёды мелі доступ — "зялёную вуліцу"! — на прыём да старшыні. У рэшце рэшт мы зайшлі, набраўшыся нахабства, да старшыні суда. Калі мы ўвайшлі, старшыня размаўляў з хударлявым мужчынам з мабільнай сувязьзю. Сказаў: "Усе пытаньні потым" — і некуды сьпешна сышоў разам з гэтым мужчынам. Мы даведаліся літаральна праз дзесяць хвілінаў ад карэспандэнтаў, што кіраўнік Канстытуцыйнага Суда пайшоў на сустрэчу з прэзідэнтам. Недзе праз гадзіну ён вярнуўся, сабраў усіх судзьдзяў Канстытуцыйнага Суда, сказаў, што ў яго была сустрэча з прэзідэнтам. І што прэзідэнт яго прасіў пачакаць тры дні — ён будзе думаць над тым, што, можа быць, адкліча свой праект Канстытуцыі з абмеркаваньня на рэферэндуме. І прасіў судзьдзяў, каб яны сустрэліся яшчэ раз з прэзідэнтам.

Некаторыя судзьдзі, у тым ліку і я, катэгарычна заявілі, што мы сустракацца з прэзідэнтам ня будзем у той час, калі паступіла прапанова аб яго адлучэньні ад пасады. Што гэта недапушчальна ні з якіх пазіцый. Але, тым ня менш, старшыня суда сабраўся сустракацца з прэзідэнтам яшчэ раз – пасьля яго вяртаньня з аднаго з беларускіх гарадоў, дзе прэзідэнт праводзіў актыўную прапагандысцкую кампанію ў падтрымку пытаньняў рэферэндуму – і прасіў судзьдзяў не разыходзіцца. Чакалі мы ў той дзень прыблізна да васьмі гадзінаў вечару. У гэты час я заўважыў у некаторых судзьдзяў копіі подпісаў дэпутатаў пад зваротам у Канстытуцыйны Суд. Іх ужо размножылі і раздалі судзьдзям. Для мяне гэта было нечаканым, паколькі напярэдадні была дамоўленасьць са старшынём суда, што гэтыя подпісы будуць знаходзіцца ў яго ў сейфе. Аднак дакументы пайшлі ўжо гуляць па Канстытуцыйным судзе.

Увечары вярнуўся старшыня Канстытуцыйнага суда, сабраў судзьдзяў і сказаў, што прэзідэнт прасіў яго да пятніцы гэтую справу не разглядаць. І ён, магчыма, яшчэ адкліча свой праект Канстытуцыі з рэферэндуму.

***— Тры дні адтэрміноўкі?***

— Так. І старшыня КС даў прэзідэнту гэтыя тры дні. Але тады ж па настойваньні большасьці судзьдзяў справа аб імпічменце была ўзбуджаная. Былі прызначаныя тры судзьдзі-дакладчыкі, адным з іх быў я. Мы настойвалі на тым, што справа павінна быць разгледжаная неадкладна, літаральна на наступны дзень. Аднак старшыня суда сказаў, што ён даў слова прэзідэнту, і раней за 22 лістапада суд ня зможа разгледзець заяву дэпутатаў аб імпічменце. Бо гэта справа гонару старшыні суда. З ім давялося пагадзіцца. Пачалася падрыхтоўка да разгляду справы. Былі зробленыя запыты ў адпаведныя ўстановы, запрошаны эксперты, шматлікія сьведкі, якія маглі даць істотную інфармацыю па справе. У прыватнасьці, аб фактах парушэньняў Канстытуцыі і законаў указамі прэзідэнта. Але на наступны дзень, як нам стала вядома, подпісы дэпутатаў, што зьвярнуліся ў Канстытуцыйны суд, былі перададзеныя ў адміністрацыю прэзідэнта. І ў адміністрацыі пачалася небывалая кампанія ціску на дэпутатаў, якія паставілі свае подпісы. Іх выклікалі, выкарыстоўвалі кампрамат, ім пагражалі. Ужываліся ўсемагчымыя метады. У выніку да 22 лістапада недзе 11-12 дэпутатаў напісалі заявы аб адкліканьні сваіх подпісаў. Падпісваў гэтыя адмовы ад подпісаў Юрый Малумаў, намесьнік старшыні Вярхоўнага Савету, які ў той час знаходзіўся ў бальніцы і ня меў такога права. Старшыня ВС Сямён Шарэцкі ды іншыя яго намесьнікі не сталі гэта рабіць. І дэпутаты-"адмаўленцы" прыносілі судзьдзям-дакладчыкам свае адмовы, завераныя Малумавым, нават без пячаткі Вярхоўнага Савету. У прынцыпе, я маю і прозьвішчы тых дэпутатаў, але гэта ня так важна, бо яны падвергліся вельмі жорсткаму ціску.

Гэткаму ж ціску падвяргаліся і судзьдзі Канстытуцыйнага суда. Нам званілі з Адміністрацыі, да нас рабілі падыходы знаёмыя, прадпрымаліся іншыя меры ўзьдзеяньня. У нас у будынку ўнізе разам з міліцыянерам разьмясьцілі супрацоўніка КДБ, які запісваў усіх, хто прыходзіў у суд. Мяркую (і нават упэўнены), што наш будынак, нашыя тэлефоны праслухоўваліся, як і пакоі для службовых пасяджэньняў. У такіх умовах, вядома, цяжка было чакаць, што Канстытуцыйны суд можа вынесьці рашэньне аб парушэньні прэзідэнтам Канстытуцыі.

Тым ня менш 22 лістапада раніцай, а палове на дзесятую, мы сабраліся, каб пачаць судовы працэс. Ужо многія былі ў мантыях. Аднак за паўгадзіны да працэсу старшыня суда тэрмінова сабраў пасяджэньне. Ён вярнуўся з той начной сустрэчы, дзе было падпісанае пагадненьне аб грамадска-палітычнай сітуацыі ў Беларусі і канстытуцыйнай рэформе. Старшыня сказаў, што падпісаны доўгачаканы мір — мірная дамова паміж прэзідэнтам і парламентам, што зараз мы вырашым праблему імпічменту "мірнымі сродкамі", ня трэба будзе разглядаць справу. Але шэраг судзьдзяў, у тым ліку і я, сказалі: "Чаму мы ня можам пачаць працэс? Мы абавязаныя зрабіць гэта, калі сабраліся ўдзельнікі працэсу, павінны вынесьці рашэньне". Старшыня суда распарадзіўся праз памочніка сказаць, што пасяджэньне суда адкладваецца да двух гадзінаў. Былі абураныя дэпутаты, прадстаўнікі Вярхоўнага Савету. Ім ён растлумачыў тое самае, што і судзьдзям. Што гэта мір, што ня будзе кровапраліцьця, і што за сёньняшні дзень дэпутаты павінны зацьвердзіць гэтую дамоўленасьць і праграму выхаду з канстытуцыйнага крызісу. І адклікаць свае подпісы. Аднак і да двух гадзінаў дня сваіх подпісаў ніхто не адклікаў, пісьма не было, і было зноў адкладзена пасяджэньне суда.

***— Валерый Ціхіня сам верыў у тое, што ён казаў, альбо яго нейкім чынам запалохалі?***

— Я амаль што ўпэўнены, што ў дачыненьні да старшыні суда быў выкарыстаны кампрамат, таму што калі 19 лістапада мы бачылі яго з тым хударлявым чалавекам з мабільнай сувязьзю (я даведаўся потым ягонае прозьвішча, зараз, дарэчы, ён чамусьці знаходзіцца ў шэрагах апазіцыі), я такім Ціхіню ня бачыў ніколі. Калі дэпутаты прынесьлі сваю прапанову, адразу пасьля таго, як мы ўбачылі Ю.Захаранку, старшыня КС быў увесь пунсовы, пабіты чырвонымі плямамі. Ён не ўсьміхаўся, ён быў цалкам дэмаралізаваны, як мне падалося. Адчувалася, што чалавек чымсьці засмучаны бязьмерна. Ціхіня ня мог пайсьці на сустрэчу з прэзідэнтам. Перад гэтым год яны не сустракаліся, і прэзідэнт патрабаваў адстаўкі старшыні Канстытуцыйнага суда, паколькі ён не апраўдаў ягонага даверу. Але тым ня меньш Ціхіня заручыўся падтрымкай большасьці дэпутатаў і згоды на адстаўку не даваў. У такіх умовах крайнія абставіны павінны былі прымусіць прэзідэнта пайсьці на сустрэчу са старшынём суда. У сваю чаргу, толькі крайнія абставіны маглі прымусіць старшыню суда пайсьці на сустрэчу з прэзідэнтам. Таму што я ўпэўнены быў: ён ня мог пайсьці на гэтую сустрэчу. І павінен быў стаяць да канца, захоўваючы законнасьць і прынцыповасьць. Тым ня меньш старшыня суда стаў настойваць на прыпыненьні справы, схіляць судзьдзяў да такога рашэньня. Ён пайшоў на беспрэцэдэнтны крок і сабраў судзьдзяў 23 лістапада, у суботу. Аднак судзьдзі ня вынесьлі і ў суботу рашэньня аб спыненьні справы.

***— Ужо было позна...***

— У прынцыпе, позна, але яшчэ не



*20 ліпеня 1994 году — А.Лукашэнка прысягае на Канстытуцыі "выконваць Канстытуцыю". Але праз год ён перапісаў Канстытуцыю "пад сябе"...*

знайшлося большасьці галасоў для прыняцьця рашэньня аб спыненьні справы аб імпічменце. 26 лістапада, пасьля абвяшчэньня пераможных вынікаў рэферэндуму, было прынятае рашэньне аб сканчэньні справы ў Канстытуцыйным судзе. І што яшчэ ўражвае: у гэты ж дзень — 26 лістапада — група дэпутатаў, сабраная ў адміністрацыі прэзідэнта, прыняла свае дзіўныя лёсаносныя законы. Адзін з гэтых законаў быў "Аб спыненьні ў Канстытуцыйным Судзе Рэспублікі Беларусь вытворчасьці па справе аб парушэньні Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь". Гэты закон, больш падобны не на закон, а на ўказ, быў перададзены нам праз памочніка старшыні Канстытуцыйнага Суда на службовае пасяджэньне. Ён складаўся ўсяго з двух пунктаў: спыняецца справа аб парушэньні прэзідэнтам Канстытуцыі; закон уступае ў сілу з моманту яго падпісаньня. Гэта быў ніякі не закон . Але тым ня меньш, дэпутаты, сабраныя ў адміністрацыі, прынялі такое падабенства закону і перадалі яго судзьдзям Канстытуцыйнага Суда. У гэты час у нас ішло пасяджэньне. Мы сабраліся, каб канчаткова вырашыць лёс справы аб імпічменце. Цяжкая была сітуацыя. Псіхалагічна падарваны быў настрой у судзьдзяў. Усе разумелі, што рашэньне суда ўжо ня мае ніякога значэньня. І было большасьцю галасоў прынятае рашэньне аб спыненьні гэтай справы. З прычыны адкліканьня дэпутатамі сваіх подпісаў з Канстытуцыйнага Суда. Я выступаў катэгарычна супраць гэтага рашэньня, пераконваючы судзьдзяў, што гэта справа публічнай вытворчасьці, і ня мае значэньня, што ў далейшым нехта адклікаў свае подпісы. Калі справа пачата ва ўстаноўленым парадку – значыць, яна павінна была быць скончаная. Аднак маё меркаваньне засталося непадтрыманым...

Неўзабаве пасьля гэтага стала відавочна, што Канстытуцыйны Суд скончыў сваю дзейнасьць, паколькі была ўведзеная ў дзеяньне новая рэдакцыя Канстытуцыі, супраць выняесеньня якой на рэферэндум судзьдзі галасавалі 4 лістапада: прызналі, што рэферэндум можа мець толькі рэкамендацыйны характар. Шэсьць судзьдзяў падалі заявы аб астаўцы на імя прэзідэнта. І ён яе прыняў. Я заяву аб адстаўцы падаў у Вярхоўны Савет, але ён быў разагнаны і прыняць адстаўку ніхто ня мог. Калі стаў фармавацца новы склад суда, я быў звольнены ўказам прэзідэнта "у сувязі са сканчэньнем тэрміну паўнамоцтваў судзьдзі". Гэта значыць, праз тры з паловай гады мяне звольніў прэзідэнт. Беспрэцэдэнтны ў практыцы Канстытуцыйнага Суда выпадак.

***— А колькі гадоў быў тэрмін Вашых паўнамоцтваў?***

— Гэты тэрмін складаў адзінаццаць гадоў. І выбіраў мяне Вярхоўны Савет — прэзідэнт ніяк ня мог мяне звольніць. Але ў новай рэдакцыі Канстытуцыі ён напісаў, што мае права звальняць усіх судзьдзяў. Гэта і было скарыстана ў адносінах да мяне. Мне прапаноўваў Васілевіч (новы старшыня Канстытуцыйнага Суда – *Т.С.*) у заяве аб адстаўцы не праяўляць асаблівай прынцыповасьці, каб атрымаць значную грашовую дапамогу і ня мець потым праблемаў з працаўладкаваньнем. Але пасьля ўказу прэзідэнта я быў звольнены ў той жа дзень без усялякай выхадной грашовай выплаты.

27 лістапада новая рэдакцыя Канстытуцыі была ўведзеная ў дзеяньне – пасьля апублікаваньня афіцыйных вынікаў рэферэндуму. Пачаўся новы этап у гісторыі Беларусі – жыцьцё па Канстытуцыі, якую не прызнае ўвесь сьвет. Канстытуцыі, навязанай, гэтак мовячы, адным чалавекам усяму беларускаму грамадству. Зараз з гэтай прычыны стаіць пытаньне: калі сканчаюцца тэрміны паўнамоцтваў прэзідэнта? 20 ліпеня альбо праз два гады? Паводле Канстытуцыі 94-га году, якая ёсьць адзінай легітымнай, пытаньне відавочнае. Па новай рэдакцыі Канстытуцыі – пытаньне праблематычнае...

***— Калі немагчыма правесьці пераабраньне прэзідэнта дэмакратычным шляхам, то, паводле закону, улада на нейкі час пераходзіць да кіраўніка парламенту. Але на практыцы нельга адназначна прадказаць разьвіцьцё падзеяў. У такім разе старшыні Вярхоўнага Савету С.Шарэцкаму павінны падпарадкоўвацца армія, міліцыя, урад... Відавочна, што многія людзі стаміліся за апошнія пяць гадоў трываць прававое "бязьмежжа" і страх. Частка палітычных партыяў ужо сёньня кліча 20-21 ліпеня народ на вуліцы і плошчы нашых гарадоў. Вось і дапамажыце вырашыць такую дылему. З аднаго боку, народ мае права на выказваньне свайго пратэсту, тым больш пры беззаконьні з боку ўлады. З другога боку, законы і ўказы на практыцы ніхто не адмяняў, яны пакуль дзейнічаюць. Ці не абрынецца Беларусь у бездань хаосу і зьнявагу ўсіх законаў абодвума бакамі (бо трываць зьнявагу закону адным бокам доўга немагчыма)? І яшчэ: як краіне пазьбегнуць канчатковага прававога хаосу на практыцы?***

— Так, самы верагодны варыянт – што пасьля 20 ліпеня прэзідэнт не аддасьць сваю ўладу, захавае яе. Але ён ужо не будзе прэзідэнтам паводле Канстытуцыі. Ён будзе кіраўніком дзяржавы, які гвалтоўна і незаконна ўтрымлівае вярхоўную ўладу. Таму з пункту гледжаньня права – вядома, народ можа выйсьці і прад'явіць свае патрабаваньні. Гэта супраціў, пратэст супраць беззаконьня. Але трэба ўлічваць, што прэзідэнт з пункту гледжаньня права страціць легітымнасьць, але ён захавае рэальную ўладу. Значыць, увесь апарат, служба аховы, карныя органы, чыноўнікі, хутчэй за ўсё, яшчэ застануцца вернымі яму. І калі народ выйдзе з пратэстам, я думаю, улады задзейнічаюць усе метады ўзьдзеяньня. Не выключана, што будзе і вялікі "хапун", будуць арышты. Улада будзе сябе абараняць у любым выпадку. Таму цяжка сказаць, што будзе... Цалкам верагодна, што Аляксандр Лукашэнка, утрымліваючы адзінаасобную вышэйшую ўладу ў краіне, можа ўвесьці надзвычайнае становішча. Можа забараніць дзейнасьць незалежнай прэсы, дзейнасьць палітычных партыяў. Ён можа ўвесьці патруляваньне вуліцаў гарадоў, для гэтага міліцыі дастаткова.

Я мяркую, што, калі народ выйдзе і выкажа пратэст уладам, улада ужыве гвалт. Можа пачацца, па сутнасьці, грамадзянская вайна. Альбо пачнецца дыктатура ў яе класічным выглядзе: з жорсткімі рэпрэсіямі, арыштамі, зьнішчэньнем людзей.

**Гутарыла**
**Тацяна СЬНІТКО**

# Слухай сваё!

Сітуацыя, якая склалася сёньня ў Беларусі з уласна беларускай культурай настолькі абсурдная і унікальная, прынамсі для Еўропы, што чалавеку з нармальнага сьвету без доўгага тлумачэньня, вось так адразу сутнасьць яе і не зразумець. Афіцыйныя ўлады фактычна загналі культуру нацыянальнай большасьці ў падпольле. Бо ўсё беларускае, на іх думку (і не беспадстаўна, дарэчы), ёсьць апазіцыйнае, а значыць варожае ім. Асабліва тычыцца гэта маладзёжнай, альтэрнатыўнай культуры , і найперш — музыкі. Пра дапамогу і падтрымку размова не ідзе. Галоўнае, каб не парашкаджалі. Ды дзе там! Забарона альбо праблемы з дазволам канцэртаў беларускамоўных гуртоў, на якія моладзь прыходзіць з нацыянальнымі бел-чырвона-белымі сьцягамі — рэч звычайная. На тэлебачаньне ці радыё прабіцца ўдаецца толькі самым-самым. Гэта магло б быць прымальным, калі б краіна нармальна разьвівалася, каб не душыліся прадпрымальнасьць і ініцыятыва. Бо па гэтых прычынах у гуртоў і сьпевакоў фактычна няма спонсараў. А значыць і практычна няма магчымасьці зрабіць кліп, выпусьціць дыск, запісаць касету...

Але беларускія музыкі і ў гэтакіх варунках навучыліся выжываць, працаваць зьмястоўна, творча, вынікова. Не так даўно Беларуская музычная ініцыятыва (БМА group) выпусьціла першую беларускамоўную CD-кружэлку пад назовам "Вольныя танцы: слухай сваё". Да выпуску гэтага дыска, акрамя БМА group, спрычынілася праваабарончая арганізацыя Беларускі Хельсінскі камітэт.

"Адметнасьць гэтай кружэлкі ў тым, — пішацца ў анатацыі да CD, — што яна ёсьць першай за гісторыю беларускай незалежнай музыкі кампіляцыяй, дзе сабраныя толькі беларускамоўныя выканаўцы: вядомыя і не зусім вядомыя. Тут будзе і "попграндж", і звычайны поп, і электроніка, і noise, і jazz folk, і pagan, і rock — усё, што складае незалежную музыку незалежнай Беларусі. Некаторыя гурты выступяць у нязвыклым для сябе амплуа — гэта спроба зьнішчыць стэрэатыпы, якія пасьпелі скласьціся да гэтай пары. Спадзяемся праз гэты CD будзе зьнішчаны й стэрэатып, так бы мовіць, музычнай тутэйшасьці".

Зьяўленьне дыску — гэта яшчэ і вынік канцэртаў-акцый "Вольныя танцы", якія з пачатку 1998 году ладзіць БМА group. Вакол іх гуртаваліся беларускамоўныя каманды. У запісе першага CD прынялі ўдзел як вядомыя далёка за межамі краіны гурты "Ulis", "Палац", "N.R.M.", "Kriwi", "Новае неба", "Крама", "Нейро дюбель", "Камэлот", так і знаныя пакуль толькі ў Беларусі "Мясцовы час", "Зьніч", "Zygimont Vaza", "Postscriptum", "Deviation"...

Аўтары праекту выказваюць падзяку "ўсім хто дапамагаў і не перашкаджаў", як вы цяпер разумееце чаму, а таксама музыкам і музыказнаўцам, рэдакцыям газетаў "Наша ніва", "Навіны", "Имя", "Беларуская маладзёжная", "Пагоня", "Беларуская деловая газета", "Брестский курьер", "Народнае слова" (Віцебск) і інш.

**Наш кар.**

# Канфіскацыя

## 1.

5 кастрычніка 1994 года навасьпечаны прэзідэнт выдаў адзін з першых сваіх указаў, па якім, у прыватнасьці, забараняў юрыдычным асобам весьці разьлікі наяўнымі грашыма. Мы ўсе добра ведаем уласьцівасць наяўных грошай «прыліпаць» да рук. Таму ўказ быў, можна сказаць, прагрэсіўны: «перакрываў кісларод» ня вельмі сумленным чыноўнікам.

Нічога ня чуў пра гэты дакумент ні любаньскі фермер Алесь Касач, ні той старшыня калгаса са Слуцкага раёну, у якога Алесь купіў партыю сьвіньняў. Яно б і нічога, ды разьлік быў зроблены якраз наяўнымі. А таму абодва гаспадарнікі адразу ж патрапілі пад дзеяньне новага ўказу – няведаньне закону не вызваляе ад адказнасьці.

Далей — справа тэхнікі. Мінскі абласны гаспадарчы суд задаволіў зыск падатковай інсьпекцыі адносна штрафных санкцыяў і выдаў Касачу і таму старшыні па поўнай праграме – па паўмільярда рублёў штрафу. Дакладная сума штрафу для фермера склала 538 мільёнаў 482 тысячы 960 рублёў. Страшна вялікія па тым часе грошы.

Слуцкі старшыня тым часам паехаў у Мінск, да самага галоўнага падатковага інсьпектара. Што ён там гаварыў і як менавіта каяўся – невядома. Вядома толькі, што Падатковы камітэт мае права, пры наяўнасьці заслугоўваючых увагі прычынаў (цяжкае фінансавае становішча і інш.) штраф юрыдычнай асобе скасаваць альбо пралангіраваць (расьцягнуць у часе). Словам, старшыні нейкім чынам удалося дамовіцца.

Алесь спрабаваў спрачацца, быў гатовы нават заплаціць нейкі штраф у разумных памерах, але ж не паўмільярда! Нічога ня выйшла: судовая машына ў нас едзе толькі наперад, прымусіць яе вярнуцца назад амаль немагчыма...

Штраф Алесь Касач не заплаціў. Больш за тое, летась у маі ён высьветліў, што плаціць яго ён і не павінен, бо на момант «сьвінячай» зьдзелкі юрыдычнай асобай не зьяўляўся.

Любаньская падатковая інсьпекцыя пайшла фермеру насустрач: яму далі адтэрміноўку. Трэба было толькі знайсьці падставу для перагляду судовага рашэньня. І ўсё ж, інсьпекцыя была вымушаная пайсьці на крайнія меры, як-ніяк, нядоімка «вісела» на іх.

## 2.

Судовая машына, аднак, ішла сваім ходам.

Была прынятая пастанова: у лік пагашэньня штрафной сумы канфіскаваць у фермера частку тэхнікі. Алесь паехаў у Любань, да старшыні райвыканкама: паспрабаваць адстаяць тэхніку – трэба ж было адсеяцца.

У гэты ж час у ягоным доме падзеі разьвіваліся наступным чынам. Работнікі займаліся сяўбой гароху, а «на гаспадарцы» заставалася жонка Алеся – Галіна. У гэты момант і прыбыла «група захопу» на чале з судовым выканаўцам Мікалаем Раманчуком. У ёй былі таксама трое міліцыянтаў і прадстаўнік падатковай інсьпекцыі. Міліцыянеры пачувалі сябе няёмка і параілі Галіне не падпісваць акт, які склаў рашучы сп.Раманчук. Яна так і зрабіла. Падатковы інсьпектар таксама адмовілася паставіць свой подпіс.

Шчыра кажучы, дакумент быў крыху сумніўны і складзены, мякка кажучы, ня надта пісьменна. А самае галоўнае, тэхніка – трактар Т-25 і аўтамабіль ГАЗ-53 – належылі не Касачу, а ягонай сястры і кампаньёну Валянціне Янушкевіч.




Тлумачу: спачатку былі дзьве фермерскія гаспадаркі – «Касач» і «Янушкевіч». Потым яны зьліліся і ўтварылі таварыства з абмежаванай адказнасьцю «Айрыс-сервіс». Трактар і аўтамабіль па дакументах зьяўляюцца ўкладам Валянціны Янушкевіч і яе сына у статутны фонд ТАА. Гэта і спрабавалі растлумачыць судоваму выканаўцу. Але, як вядома, чуе той, хто хоча чуць.

Сп. Раманчук загадаў адчапіць трактар ад сеялкі і цягнуць у Любань. Трактар «пакрыўдзіўся» і на паўдарозе заглох. Машына, да радасьці «выканаўцаў», даехала.

Падвядзем вынікі «бліскучай» фінансава-фіскальнай аперацыі. Сяўба сарваная, тэхніка стаіць на аўтабазе, бо прадаць яе нельга па закону – пакараны Касач, але ж тэхніка яму фактычна не належыць...

У гэты ж час Касач чакаў прыёму у старшыні райвыканкама Івана Макарэвіча. Старшыня выслухаў яго і паабяцаў разабрацца. Алесь паверыў, а калі вярнуўся дадому, то знайшоў жонку ў сьлязах і сеялку бяз трактара.

Паехаў зноў у Любань, зноў дачакаўся старшыні, але на гэты раз быў ім з кабінета выгнаны з крыкам «Нахабнік!»

Што ж, старшыню можна зразумець. Што яму нейкі фермер, калі калгасы ледзь дыхаюць? Іван Міхайлавіч можа трапіць «на дыван» да начальства за іх, а ніяк не за Касача. Ёсьць судовае рашэньне: правільнае яно ці не – справа шаснаццатая, але калі яно ёсьць – яго трэба выконваць...

## 3.

У чым тут самы цымус? У першым выпадку гаспадарчы суд пакараў Касача за тое, што, не зьяўляючыся юрыдычнай асобай, ён разьлічыўся з юрыдычнай асобай наяўнымі. У другім выпадку той жа суд ня стаў нават разглядаць заяву Валянціны Янушкевіч, бо яна юрыдычнай асобай не зьяўлялася.

Справа ў тым, што калі ў раёне праходзіла перарэгістрацыя гаспадарчых суб'ектаў, ні гаспадарка Алеся, ні гаспадарка Валянціны не былі зарэгістраваныя як юрыдычныя асобы. А каб стаць юрыдычнай асобай трэба: пячатка, рэгістрацыя ў падатковай інсьпекцыі, рэгістрацыя ў Мінстатыстыкі, разьліковы рахунак.

Той жа прэзідэнцкі ўказ мае на ўвазе толькі і выключна юрыдычных асобаў. Такім чынам, караць фермера Касача штрафам падставаў не было. У якасьці пацьвярджэньня: 30 красавіка 1997 года Мінскі абласны гаспадарчы суд разглядаў справу Валянціны Янушкевіч па нямэтавым выкарыстаньні крэдыту, выдадзенага банкам на сяўбу. Проста сказаць, гэтыя грошы пайшлі на куплю шыферу. Любанская падатковая інсьпекцыя падала зыск амаль на 93 мільёны (там, відаць, лепш разьбіраюцца ў гаспадарчых патрэбах). Суд адмовіўся разглядаць справу на той падставе, што Янушкевіч – не юрыдычная асоба. Гэта было ў красавіку, а трыма месяцамі пазьней гэты ж суд пакараў Касача штрафам, хоць той таксама юрыдычнай асобай не зьяўляўся. Тут, як у нас кажуць, без бутэлькі не разбярэшся...

Пра ўсе гэтыя нюансы Алесь даведаўся толькі ў судзе. Нават судзьдзя яму сказала: праўда на тваім баку, змагайся. Гэта вядома, добра, але калі працаваць? Зьявілася, да таго ж, новая праблема: як здабыць паперку, што ты быў на той час проста «асобай», а не «юрыдычнай». Яе адсутнасьць перакрэслівала ўсе надзеі.

Касач, апрача ўсяго, быў вінен банку 300 мільёнаў крэдыту ды столькі ж – працэнтаў па ім. Яго гэта не палохала: разьлічыўся б. Але

штраф і наступная канфіскацыя цалкам зьмянялі ўсю карціну.

А выснова, на жаль, знаёмая: трэба ведаць законы. Іх няведаньне – хранічная наша хвароба, а ня толькі Алесева...

**4.**

Разам з Касачом мы езьдзілі ў Любань па гэтую даведку. У райвыканкаме праходзіла адразу некалькі нарадаў. Засядала начальства, моладзь абмяркоўвала праблемы патрыятызму, а калгасныя і саўгасныя эканамісты раіліся як працаваць бяз стратаў. Прыгадаліся старыя добрыя часіны, калі жыцьцё ішло пад дэвізам: «Ні дня без нарады»! З гэтым успамінам добра стасавалася і раённая Дошка гонару. Страшнаватае бятоннае збудаваньне ўтрымлівала каляровыя партрэты «тых, кім ганарыцца Любаньшчына». Мы стаялі каля гэтага пудзіла, палілі, у выніку, прыдумаўся афарызм: калі зьяўляюцца «Дошкі гонару», прадукты зьнікаюць. Бо зьнікаюць такія людзі, як Алесь Касач.

Я яго ведаю ўжо дзевяты год. Алесь вядома, не анёл, дый хто з нас так можа пра сябе сказаць? Аднак нічога супрацьзаконнага ён ня робіць. Алесь па меры сваіх сьціплых сілаў хоча напаўняць беларускі рынак беларускімі прадуктамі. Ён шчыра верыць: вось разабрацца б са штрафам, знайсьці абаротныя сродкі і ён зноў будзе на кані.

Дзіцячая наіўнасьць. У нашай вёсцы такія, як ён застаюцца чужародным целам. Урэшце, хату ў бліжэйшай вёсцы, офіс і гаспадарчае памяшканьне спалілі яму не дыверсанты з ЦРУ... Тыя, хто прымае рашэньне: жыць нам ці не, добра арыентуюцца ў настроях напаўцёмнай вёскі. І ўсяляк іх падтрымліваюць. У тым ліку, указамі, дэкрэтамі, законамі і жыцьцёвай практыкай, калі ўласніка і гаспадара душаць, як гаворыцца на месцах.

У фермера планы былі грандыёзныя. У пасёлку Урэчча былі амаль завершаныя крама і кавярня – будаўніцтва давялося «замарозіць». Напагатове стаялі дзьве перасоўныя крамы. Былі іншыя планы. Няма сэнсу пералічваць задумкі цяпер.

14 мая мінулага года Алесь прымаў удзел у шэсьці апазіцыі. Аперазаўся рушніком з вывай бусла – сімвалу роднай хаты. Яго схапілі і кінулі ў «варанок». На гэтым ягоная акцыя пратэсту скончылася. Адпусцілі Алеся хутка, але самае сьмешнае ня ў гэтым. Калі б справа дайшла да турмы, то фермер Касач харчаваўся б там гарохам уласнай вытворчасьці: у свой час ён прадаў 13 тонаў гароху вядомай установе на вуліцы Апанскага, ды яшчэ 3 тоны – у СІЗА на Валадарскага. У якасьці запаснога варыянту – 5 тонаў у Жодзінскае СІЗА. Міліцыя разьлічваецца адразу і без прамаруджваньня. Выгадныя кліенты.

Тым часам, у фермера канфіскавалі аўтамашыну МАЗ і трактар МТЗ. Працэс працягваецца. Працэс зьнішчэньня «альтэрнатыўнай» эканомікі «законнымі» сродкамі.

**Андрэй СЯРЖАН**

# ПА-ЗА ЗАКОНАМ

*(Пачатак на стар. 1)*

каб ня выпусьціць на расійскія прасторы беларускага дабрадзея. Не тое, каб яны баяліся "калгаснага конюха" (словы Жырыноўскага) — хоць і гэта, безумоўна, ёсьць, але навошта ім на блізкіх выбарах яшчэ адзін канкурэнт з непрадказальнымі паводзінамі. Непрадказальнымі, бо палітык Лукашэнка ніколі не гуляў па агульнапрынятых правілах. Як сказаў адзін назіральны чалавек — пакуль ты будзеш думаць над чарговым ходам, ён ударыць цябе па галаве шахматнай дошкай... Менавіта дзякуючы такой "тактыцы", а яшчэ яўнай хлусьні ды абсалютна невыканальных абяцаньняў электарату (тое, што называецца прыгожым словам папулізм) Лукашэнка і здабыў усе свае перамогі ў Беларусі на выбарах і рэферэндумах. Набраўшыся вопыту на "беларускім палігоне", хто яго ведае, як разгорнецца ён на расійскім...

Былі, вядома, і іншыя прычыны, паводле якіх расійскае кіраўніцтва пакуль не адважылася на аншлюс Беларусі. Але факт застаецца фактам: за час сваёй легітымнасьці Лукашэнка ня здолеў здаць Беларусь. Падпісаныя ім да 20 ліпеня аб'ядноўчыя дакументы, хай і не прызнаныя апазіцыяй і цывілізаваным сьветам, юрыдычна маглі б мець сілу, хоць бы таму, што падпісаў іх і сапраўды дэмакратычна абраны прэзідэнт. Пасьля 20 ліпеня, пасьля сканчэньня пяцігадовага тэрміну, на які ён быў абраны, любое прынятае ім рашэньне апынаецца па-за законам. Расійскія ўлады, перанёсшы "на восень" падпісаньне дакументаў аб стварэньні Саюзу Беларусі і Расіі, фактычна здалі свайго "найблі-жэйшага саюзьніка і брата па ваяўнічым славянстве". І нездарма таму ў адным са сваіх нядаўніх выступленьняў Лукашэнка прыгразіў Расіі, што аддаў беларускаму ўраду загад павярнуцца, як той хатцы з казкі, да Расіі задам, а да Захаду передам. Нічым іншым, як шантажом гэта не выглядае...

У Лукашэнкі быў шанц паспрабаваць выйсьці сухім з балота, у якое ён сам сябе загнаў. Ён мог прыняць удзел у выбарах, прызначаных легітымным Вярхоўным Саветам і праведзеных апазіцыяй сёлета 16 траўня, альбо згуляць у "дэмакратыю" і прызначыць "датэрміновыя" выбары. У яго была даволі высокая верагоднасьць з дапамогай "вертыкалі" выйграць іх. Была. Але сёньня, калі чуецца ўсё больш і больш галасоў, што за пяць гадоў свайго прэзідэнцтва ён ня выканаў аніводнага свайго перадвыбарнага абяцаньня, што жыцьцё народу з кожным годам толькі пагаршаецца, што людзі стаміліся ад безграшоўя, дэфіцыту прадуктаў і тавараў, чэргаў, інфляцыі, безнадзейнасьці... грамадзкая думка паварочваецца да высновы: хай будзе любы іншы, толькі ня ён, у яго не атрымалася, хай паспрабуе іншы — такіх дырэктараў саўгасаў у нас шмат...

Такім чынам, з 20 ліпеня Лукашэнкі як палітыка больш няма. Ёсьць узурпатар улады. Ёсьць дыктатар, якому спадабалася кіраваць народам і якому сваю бязьмежную ўладу над ім губляць ня хочацца.

**Андрэй НАЛІВА**



# "Мы выконвалі свой абавязак..."

## Расказваюць журналісты — сьведкі трагедыі на Нямізе

**_Праваабарончаму Цэнтру "Вясна-96", як вядома, нададзеныя функцыі выканаўчага органа Грамадзкай камісіі па расьследваньні трагедыі 30 траўня на Нямізе. Прапануем увазе чытачоў бюлетэня "Права на волю" матэрыялы аднаго з накірункаў расьследваньня трагедыі, якія датычыцца парушэньня свабоды слова супрацоўнікамі міліцыі падчас падзеяў 30 траўня на Нямізе._**

Адразу пасьля трагедыі ў сродках масавай інфармацыі зьявіліся звароты органаў пракуратуры да грамадзянаў, каб тыя, хто былі сьведкамі трагедыі, дапамаглі расьследваньню. Наколькі фарысейскімі былі гэтыя звароты і наколькі незацікаўленыя ўлады ў тым, каб данесьці да свайго народу праўду пра тое, што адбывалася 30 траўня ў падземным пераходзе станцыі метро "Няміга" і каля яго, сьведчыць іх абыходжаньне з журналістамі, якія ў той вечар выконвалі свой прафесійны абавязак. Як паказалі нашыя расьследваньні, значную частку каштоўных дакументальных матэрыялаў (фотастужкі) міліцыянты зьнішчалі або канфіскоўвалі адразу, яшчэ на месцы трагічных падзеяў. Такім чынам прадстаўнікі ўлады парушалі ня толькі прафесійныя правы журналістаў, але і правы грамадзянаў нашай краіны на атрыманьне праўдзівай інфармацыі.

Закон аб друку Рэспублікі Беларусь гарантуе:

*Раздзел 5, артыкул 39:* "Журналіст мае права прысутнічаць у раёнах стыхійных бедстваў, аварый і катастроф, ваенных дзеяньняў, мясцовасьці, дзе абвешчанае надзвычайнае становішча, на мітынгах, дэманстрацыях і г.д."

*Артыкул 32:* "Грамадзяне Рэспублікі Беларусь маюць права на своечасовае, аператыўнае атрыманьне праз сродкі масавай інфармацыі дакладных зьвестак пра дзейнасьць дзяржаўных органаў, грамадзкіх аб'яднаньняў, пра палітычнае, эканамічнае, міжнароднае жыцьцё і стан акаляючага асяродзьдзя..."

Так запісана ў Законе. А што было на справе...

**Расказвае Анатоль _(прозьвішча пакуль не паведамляем)_ – фотакарэспандэнт**:

"Я пачаў фатаграфаваць тады, калі ўбачыў гэтае месіва целаў унутры пераходу. Міліцыя ў гэты час спрабавала расцягнуць людзей. Зрэшты, не, намеры ў іх былі іншыя — разагнаць. Усё гэта я сфатаграфаваў ад пачатку да канца. Доўжылася гэта хвілінаў дзесяць. Я зразумеў, што гэта вельмі сур'ёзна, калі з другога выхаду пераходу пачалі выносіць трупы.

— *З боку катэдральнага сабору?*

— Так. Трупы выносілі людзі простыя, цывільныя: тыя, хто меў яшчэ сілы выносіць. З месца, дзе быў я, не было магчымасьці гэта здымаць – мяне папярэдзілі: не здымай!

— *Хто папярэдзіў?*

— Міліцыянт. Былі прыцемкі, успышка ў мяне даволі магутная, і гэта прыцягнула ўвагу міліцыянта. Спачатку міліцыі было мала, але хутка зьявілася больш і адзін з іх папярэдзіў – не здымай. Я перайшоў на іншы бок, на бок катэдральнага сабору праз дарогу і пачаў здымаць. Спрабаваў зайсьці ў сярэдзіну, але гэта было нерэальна. Мне ўдалося зьняць першыя вынесеныя ахвяры. Але я сфатаграфаваў і тое, як усё гэта адбывалася.

— *Што адбывалася з боку катэдральнага сабору?*

— Я здымаў. Я ня ведаў, ці мёртвыя гэтыя людзі, але выгляд у іх быў жахлівы. Міліцыя ўжо была там – некалькі чалавек, а потым прыехалі яшчэ – практычна, калі ўсё ўжо скончылася. Ня бачыў, каб яны дапамагалі пацярпелым. Бачыў, як дапамагала жанчынаўрач, пра якую я потым даведаўся, што яна загінула. Ёй проста не пашанцавала – яна ня ведала, што такое натоўп і кідалася дапамагаць. Я яе бачыў у натоўпе – яна спрабавала кагосьці выцягнуць... Напрацягу гэтых дзесяці хвілінаў усіх, каго можна было выцягнуць – выцягвалі, а тых, хто ўжо там задыхаўся – выцягнуць было практычна немагчыма. Міліцыя ў гэты час зрабіла кардон, нікога не пускалі, але было позна – яны не пасьпелі. Зрэагавалі, я лічу, яны ня так, як патрэбна – яны былі разгрупаваныя. Ім бы згрупавацца ў адным месцы, каб абмежаваць плынь людзей, а яны гэтага зрабіць не змаглі.

— *Хто дапамагаў ахвярам?*

— Дапамагалі ў асноўным тыя пацярпелыя, якім удалося выбрацца.

— *Ці аказвалі міліцыянты першую медыцынскую дапамогу пацярпелым?*

— Ня бачыў. Можа быць, аказвалі, але я асабіста ня бачыў. Яны дапамагалі камусьці адтуль выбрацца, але іх было мала .

— *Калі на вас зноў зьвярнулі ўвагу?*

— Папярэдзілі: хлопец, не здымай, а потым проста мне разьбілі фотаапарат. Гэта было прыкладна ў 20.35 — 20.40, я пасьпеў адзьняць дзьве стужкі па 36 кадраў. Адна стужка была ў фотаапараце, другую ў мяне забралі. Недзе яна ёсць. Але мне параілі нічога не прадпрымаць дзеля яе вяртаньня, не прыцягваць наогул увагі да сябе.

— *Хто параіў?*

— Юрыст. Ён сказаў – лепш не ўзбуджай наогул ніякіх справаў: табе гэта абыйдзецца даражэй, цябе зробяць "казлом адпушчэньня", назавуць "нячэсным журналістам". Наогул, параіў паменьш сьвяціцца, каб паменьш людзей ведалі мяне. Я з ім згодны і ніякіх справаў узбуджаць ня буду.

— *Калі ў вас адбіралі стужку, ці ўжывалі да вас гвалт?*

— Тое, што ў мяне разьбілі фотаапарат, я ўжо лічу ўжываньнем гвалту, а так – патрапілі трохі дубінкай па баках – і ўсё. У Амерыцы б ужо быў скандал, а ў нас гэта ня лічыцца ўжываньнем гвалту, і даказаць што-небудзь немагчыма. Усе бачылі, але сьведкаў няма і ня будзе.

— *Вы не пайшлі зьняць пабоі ці было ня вельмі балюча?*

— Было балюча, але сьлядоў амаль не засталося.

— *Ці былі побач іншыя журналісты, фотакарэспандэнты?*

— На сьвяце былі журналісты з расійскіх тэлекампаніяў НТБ, ГРТ – здымалі, але чамусьці ёсьць здымкі падзеяў да і пасьля, а таго, што адбывалася ў пераходзе – няма, хаця я думаю, што яны здымалі. Я бачыў фатографа, на жаль, імя яго я ня ведаю – ён зьняў літаральна тры кадры і яго зьбілі і запалохалі, каб ён не рабіў гэтага.

— *Ці ня лічыце вы, што фатаграфуючы трупы, вы парушылі ў пэўнай ступені прафесійную і чалавечую этыку?*

— Не, я лічу, што не парушыў. Я лічу, што ўсё гэта трэба публікаваць. Напрыклад, той жа акт марадзёрства, які я нават пасьпеў зьняць. Было гэта так: дзяўчына ў пераходзе задыхалася і я ўбачыў рукі, якія цягнуліся да яе нібыта дзеля таго, каб дапамагчы, выцягнуць (дзяўчына не магла варухнуцца), але тут тыя рукі сарвалі ланцужок і зьнiклі. Я гэта сфатаграфаваў – фатаграфія павінна была быць вельмі выразнай".

**Расказвае Сяргей _(прозвішча пакуль не называем)_ – фотакарэспандэнт**:

"З журналістаў я зьявіўся, як мне здаецца, самы першы, але да гэтага часу ўжо ўсе загінуўшыя і параненыя былі зьвезеныя. Уваход у пераход на станцыю метро быў ачэплены супрацоўнікамі АМАПу. Стаялі дзьве "хуткія дапамогі", аднак яны не былі задзейнічаныя – напэўна, аказаліся лішнімі. На першай верхняй прыступцы лесьвіцы

стаяў генерал Тарлецкі і яшчэ каля дваццаці афіцэраў і мужчынаў у цывільным адзеньні – начальства. З самага майго зьяўленьня міліцыя рэагавала дастаткова жорстка на любыя здымкі. Тое ж было, калі зьявіліся мае калегі з іншых агенцтваў. Адзін з аргументаў амапаўцаў: не здымайце нашых супрацоўнікаў. Пры гэтым адштурхоўвалі дастаткова далёка. Паколькі ўжо пачынала цямнець, то здымаць з тых пазіцыяў было зусім немагчыма. Другі аргумент быў: не здымайце нашае начальства (напэўна меўся на ўвазе генерал Тарлецкі і іншыя прадстаўнікі кіраўніцтва горада). Прычым ніякія пасьведчаньні і спасылкі на Закон аб друку, ні спасылкі на артыкул, які сьцьвярджае, што журналіст мае права працаваць без акрэдытацыі ва ўмовах надзвычайнага становішча – ня дзейнічалі. Проста быў загад – прэсу не пускаць, працаваць не даваць. Амапаўцы на яго спасылаліся: мы выконваем загад, вы нас зразумейце. Але быў сярод іх адзін (я яго ведаю ў твар), які сказаў нам упаўголасу: хлопцы, тут сапраўды рабіць няма чаго, начальства патрабуе, каб мы вас адсюль адганялі, едзьце вы па такіх і такіх адрасах, там вы знойдзеце ўсё. Мы так і зрабілі. Тут ужо рабіць не было чаго, і мы з калегам паехалі ў бальніцу "хуткай дапамогі". Каля прыёмнага покою стаяла тры-пяць машынаў "хуткай дапамогі", якія ад'язджалі, прыязджалі, прывозілі параненых. Мы пачалі здымаць. Там дзяжурылі тры сяржанты міліцыі і ім спатрэбілася секунд дзесяць, каб зразумець, што прыехала прэса, што здымаюць і што час дзейнічаць. Была разгубленасьць на нейкі час і мы пасьпелі штосьці сфатаграфаваць: як выгружаюць параненых, хто рухаўся самастойна, каго несьлі на насілках... Пакуль мы там былі – гэта ўжо было каля адзінаццаці гадзінаў, і то былі далёка ня першыя – на нашых вачах даставілі каля дзесяці чалавек: кагосьці бяз памяці і іх з машыны перамяшчалі на насілках ці каталках, нехта сам спрабаваў ісьці. На нас літаральна праз дзесяць секунд накінуліся ўсе разам – і медыкі, і міліцыя, якая пачала рукі круціць, заштурхалі ў нейкае памяшканьне, якое аказалася бамжатнікам метр на тры на першым паверсе. Там ужо адзін бомж сядзеў. Пратрымалі нас у ім хвілінаў пяць-сем, потым выпусьцілі, мы паспрабавалі зноў здымаць і нас выштурхалі на вуліцу. Мы там працягвалі працаваць і нас зноў зацягнулі ў бамжатнік, пратрымалі зноў хвілінаў пяць-сем. Спробаў забраць апаратуру не было. Мы паказвалі пасьведчаньні і яны разумелі, што маюць справу з журналістамі: і апаратура сур'ёзная, і дзеяньні нашыя даволі рашучыя – мы не зьбіраліся хавацца і рабіць нешта таемна. Нас пачалі адштурхоўваць падалей ад уваходных дзьвярэй, ад машынаў, якія пад'язджалі. Яны выклікалі падмогу, начальства – прыехала машына, у якой былі тры ці чатыры афіцэры міліцыі, з якімі мы паспрабавалі высьветліць адносіны. Мужчына, які назваўся намесьнікам галоўнага ўрача, выклікаў галоўурача, які ў катэгарычнай форме нам адмовіў у правядзеньні нейкіх здымак далей за прыёмны пакой. Ён сказаў, што мы перашкаджаем працаваць. У рэшце рэшт нам дазволілі здымаць у пад'ездзе, на ганку. Ужо было дастаткова позна, каб па-

*(Працяг на стар. 10-11)*







*Кадры, якія ўдалося зьберагчы — моманты "разборак" міліцыянтаў і "людзей у цывільным" з журналістамі ў той трагічны вечар 30 траўня на Нямізе.*

# "Мы выконвалі свой абавязак..."

(Пачатак на стар. 8-9)

ранейшаму прывозіць хворых, плынь хворых скончылася. Потым мы знайшлі труп дзяўчыны: проста за парогам на падлозе ляжаў – зусім нікому непатрэбны, ніхто яго не ахоўваў, каля яго не стаяў.

Яны гвалтам нас выштурхалі, а мы патрабавалі не перашкаджаць нам працаваць. Іх было трое, нас – двое, абвешаных апаратурай, асаблівага супраціўленьня мы не аказвалі і таму перамога, зразумела, была на іх баку".

**Расказвае Павел Жук – галоўны рэдактар газеты "Навіны":**

"Было каля гадзіны ночы, калі мы зноў прыехалі ў бальніцу "хуткай дапамогі". Мы пайшлі ў морг, але раптам пад'ехала крытая машына з аховай сьпераду, ззаду і на борце. Аказалася, што гэта яшчэ прывезьлі загінулых. Мы кінуліся туды. Са мной былі два фатографы. Мы падышлі да гэтай машыны і ўбачылі ў ёй трупы. Я кажу:

—Хутчэй фатаграфуйце!

Міліцыянты ў гэты час глядзелі ўбок, і хлопцы змаглі зрабіць некалькі кадраў. Але як толькі міліцыянты ўбачылі ўспышкі — адразу наваліліся на нас... Прыбег капітан і запатрабаваў нашыя акрэдытацыі, уважліва іх вывучыў і перапісаў. Сказаў – пайду дабівацца дазволу, каб вы маглі тут здымаць. У гэты час пачалі выгружаць трупы – усяго 16, іх нават можна пералічыць на зробленых фотаздымках.

Я лічу, што здымаць тое, што ўжо адбылося – гэта не парушэньне маральных нормаў. Больш за тое, паказаць, як з гэтымі загінулымі дзецьмі абыходзіліся – трэба. Міліцыя не аказвала дапамогу, а займалася іншым – яны зьбілі хлопца, які фатаграфаваў падчас трагедыі. Ён быў там у самы момант, калі ўсё пачалося. На яго наляцелі міліцыянты, зьбілі. У яго былі адзьнятыя дзьве стужкі – з самага пачатку і да таго часу, калі п'яныя малойцы пачалі з гігіканьнем зрываць з загінулых залатыя ўпрыгожваньні. На яго наляцеў АМАП, разьбілі фотаапарат, забралі дзьве стужкі. Стужкі забраў у яго капітан — адну засьвяціў, а другую паклаў сабе ў кішэню. У іх недзе яна ёсьць. Замест таго, каб ратаваць, выцягваць людзей, міліцыянты зрабілі ачапленьне і не дапускалі журналістаў, не дазвалялі адзьняць і запратакаліраваць усё — як было на самой справе. Яны не давалі і нам здымаць. Няма сэнсу хаваць тое, што ўжо адбылося – усё роўна гэта стане яўным. А тое, што яны хавалі ад журналістаў праўду, пацьвярджае, што яны адчувалі сваю віну. Яны не хацелі, каб людзі ведалі, што яны ня могуць дзейнічаць у крытычных сітуацыях, ня могуць забясьпечыць парадак і бясьпеку грамадзянаў, ня могуць нават аказаць першай медыцынскай дапамогі. А журналістаў зьбіваць за тое, што яны фіксуюць факты, якія ўжо адбыліся – гэта для іх маральна... Журналісты павінны паказваць тое, што ёсьць на справе – фатаграфаваць, распавядаць пра гэта, нават калі гэта і трупы (паглядзіце здымкі з афганскай вайны), рабіць гэта праўдзіва і прафесійна, без фальсіфікацыяў".

**Расказвае Вераніка Трызна – аглядальнік інфармацыйнага агенцтва Інтэрфакс:**

"Калі я туды прыехала, адразу ж убачыла працуючых маіх калег. Першае ўражаньне: адзін з вядомых фотакарэспандэнтаў спрабуе сфатаграфаваць, а яго ў даволі грубай форме адштурхоўваюць. Яшчэ адным з першых уражаньняў было тое, што людзі, якія ішлі пасьля гэтага сьвята дамоў, не разумелі, што адбылося: бачылі, што пляцоўка ачэпленая , значыць нешта здарылася. Людзі спрабавалі дазнацца, што тут адбылося, але міліцыянты нічога не адказвалі. Тады людзі пачалі зьвяртацца да нас – мы першай справай пачапілі на грудзях свае пасьведчаньні, каб нас адтуль не выганялі і адразу ж пачалі людзей інфармаваць, раіць: калі ў вас былі тут родныя ці знаёмыя, каб даведацца пра іх лёс ідзіце туды і туды. Да нас падышлі асобы ў цывільным са словамі: што вы тут робіце, ідзіце адсюль. Мы на іх не рэагавалі. Калі да нас падыходзілі міліцыянты і спрабавалі нас адтуль прагнаць, мы казалі: вы на працы і мы на працы — давайце не будзем адзін аднаму перашкаджаць. Нас папрасілі адысьці ўбок. Тут ужо сабралася ўсё гарадзкое начальства, якое мы ведаем у твар, але да журналістаў, да людзей ня выйшаў ніхто. Гэта потым ужо казалі Ярмошын і Тарлецкі, што падчас





*Кадры, якія ўдалося зьберагчы — на верхнім здымку: міліцэйскае і гарадзкое начальства каля месца трагедыі, на ніжнім: так ахвяры перавозіліся да бальніцаў.*

такіх мерапрыемстваў абавязкова павінен працаваць штаб, дзе пастаянна павінен знаходзіцца дзяжурны — чалавек, які б інфармацыю накопліваў: колькі пацярпела па афіцыйных дадзеных, каб родныя і журналісты карысталіся ня чуткамі, а афіцыйнымі дадзенымі. Той панікі, якая была ў моргах і бальніцах, можна было б пазьбегнуць, калі б своечасова было наладжанае такое інфармаваньне. Зрабіць гэта не для нас, журналістаў, а для людзей...

Трэба сказаць, што нам не аказвалі актыўнага супрацьдзеяньня, але разам з тым і не ішлі нам насустрач і не інфармавалі. Да таго ж нас прымушалі знаходзіцца на пэўнай адлегласьці ад месца здарэньня: апаратару расійскага тэлебачаньня ўказвалі — тут здымай, а тут нельга. Але для нас гэта ўжо цалкам нармальна— не саджаюць у "варанок" і не адвозяць – значыць, працаваць можна".

**Расказвае Цэзарый Галінскі – карэспандэнт Gazeta wyborcza (Польшча):**

"На месцы здарэння я сустрэўся з Уладзімірам Дзюбам – гэта быў першы журналіст, якога я там пабачыў – і разам мы стараліся нешта даведацца ад чыноўнікаў, якія зьявіліся на Нямізе. Выйшаў палкоўнік і сказаў, што нічога не адбылося, рана яшчэ нешта гаварыць, прыходзьце зранку і тады, можа, нешта даведаецеся, а мы вам нічога не скажам. У гэты час ужо ад'язджалі апошнія машыны "хуткай дапамогі". Нам казалі: не перашкаджайце працаваць, хаця мы назваліся, паказалі пасьведчаньні. Нашыя словы: мы не перашкаджаем, у вас свая работа — у нас свая, не дапамагалі. Нас выштурхалі. І толькі адзін капітан сказаў: хлопцы, тут сапраўды адбылася трагедыя, загінулі людзі і сапраўды не перашкаджайце нам. Потым да нас выйшлі людзі ў цывільным, здаецца, супрацоўнікі пракуратуры і сказалі: чакайце да раніцы, да прэс-канферэнцыі. На гэты час зьявіліся яшчэ журналісты, і мы вырашылі падзяліцца: хто куды пойдзе. Прайшла ўжо больш чым гадзіна, пакуль мы змагаліся з гэтымі чыноўнікамі, зьявіліся бацькі.

На ўсе нашыя пытаньні міліцыянты адказвалі: нічога ня ведаем, нічога ня можам сказаць. Гэты адказ гучаў ад кожнага чалавека ў форме, якога мы сустракалі ў той вечар. Ніхто з іх не хацеў ісьці на кантакт, а больш цікавіліся: хто мы такія і чаго мы тут шукаем. Калі мы казалі, што журналісты, то ад нас проста адварочваліся. Адзіны момант ужываньня гвалту з боку міліцыянтаў быў яшчэ каля станцыі метро: тады амапаўцы нас даволі карэктна, як для амапаўцаў, пачалі адштурхоўваць ад самога пераходу".

**Расказвае Марцін Сьмялоўскі – карэспандэнт Польскага агенцтва прэсы ў Мінску:**

"На Нямізе я сустрэў некалькіх журналістаў і фотакарэспандэнтаў, і хаця ва ўсіх былі журналіцкія акрэдытацыі, да нас аднесьліся ня вельмі добра. Пайшлі чуткі, што ёсьць нават загінулыя, але яшчэ ніхто ня ведаў, што адбылося. Мы паспрабавалі разам з Цэзарыем Галінскім падыйсці бліжэй, але нас адпіхнулі міліцыянты. Хаця гэта быў не гвалтоўны спосаб не дапусьціць нас, але, напрыклад, аднаму з карэспандэнтаў закрывалі рукамі аб'ектыў. Затым Цэзары яшчэ пасварыўся з палкоўнікам, афіцэрам вышэйшага рангу, які спачатку выйшаў і прасіў, а потым у больш строгай форме запатрабаваў не перашкаджаць ім працаваць. Мы ў адказ таксама сказалі, што і вы нам не перашкаджайце працаваць. Ён нічога не паведаміў пра здарэньне. Чалавек у цывільным сказаў толькі, што афіцыйная інфармацыя будзе пазьней.

Мы вырашылі, што калі параненых і загінулых возяць у шпіталі, то, напэўна, і ў бліжэйшы (2-я бальніца), дарэчы, пра гэта гаварылі і прысутныя людзі. У 2-ім шпіталі нас ужо ніхто не затрымліваў. Там было нямнога міліцыянтаў, але яны зусім адмаўляліся з намі гаварыць і адказваць на нашыя пытаньні. Яны зусім ад нас адвярнуліся".

**Расказвае Уладзімір Дзюба – сябра Рады Беларускай асацыяцыі журналістаў, галоўны рэдактар бюлетэня "Чацьвёртая ўлада":**

"Я паспрабаваў з Цэзарыем Галінскім прайсьці на месца здарэньня ў падземны пераход, але нас не прапусьцілі – было ачапленьне. Мы толькі здалёк у пераходзе ўсярэдзіне пабачылі, што багата раскіданых рэчаў, абутку на прыступках гэтага жахлівага месца. Нам параілі зьвярнуцца, каб атрымаць інфармацыю, да кіраўніцтва, якое прыехала на месца здарэньня (маюцца на ўвазе сілавыя структуры). Мы абышлі вакол, падышлі да пераходу, дзе адбылася трагедыя. Там нас таксама не прапускаў АМАП. Калі мы паказалі журналіцкія пасьведчаньні, адзін з амапаўцаў выклікаў кагосьці з кіраўнікоў – я прозьвішча, на жаль, ня памятаю. Гэта быў чалавек у цывільным, назваў сябе падпалкоўнікам і даў даволі кароткую інфармацыю. Можна сказаць, што нічога не сказаў. Дасканала былі правераныя нашы пасьведчаньні. Далей ён сказаў, што больш нічога сказаць ня можа: ёсьць пацярпелыя, ёсьць загінулыя – і сышоў. На месцы здарэньня аказаўся вядомы фотакарэспандэнт, які хацеў зрабіць здымкі, але яму гэта рабіць забаранілі. Калі ўжо чалавек восем журналістаў сабралася з розных выданьняў—нам сказалі адыйсьці. Фотакарэспандэнту забаранілі рабіць здымкі, пачалі штурхаць.

Я б не сказаў, што некарэктна сябе паводзілі амапаўцы, але ж, магчыма, у нас свае меркі адносна мяккасьці адносінаў нашых міліцыянтаў з журналістамі. Пасьля зьбіцця дубінкамі на мітынгах, пасля арыштаў – штуршок у сьпіну ўжо не ўспрымаецца як гвалт, хаця мы выказалі пратэст.

Адзін з сяржантаў узяў мяне "пад лакаток" і сказаў: "Адыдзіце!". Я сказаў яму, каб ён прыбраў рукі – ён ня мае права выганяць журналістаў. На аднаго з карэспандэнтаў наогул трое амапаўцаў накінуліся – гэта быў журналіст з замежных сродкаў масавай інфармацыі. Яго схапілі за рукі, за плечы, за горла і адцягвалі. Мы ўступіліся за яго і, так бы мовіць, адбілі. Пачалася спрэч-ка. Амапаўцы тлумачылі, што ім заба-ранілі кагосьці сюды пускаць, што яны на працы. На гэта мы адказалі, што мы таксама на працы, мы журналісты і тут працуем, а не гуляем. Мы маем права тут быць і гэтае права дадзенае нам законам.

Я лічу, што пра трагедыю, якая адбылася, інфармацыя павінна быць максімальна дакладнай, праўдзівай. І права на яе атрыманьне маюць грамадзяне Беларусі згодна з Канстытуцыяй і Законам аб друку".

# У берасьцейцаў ёсьць сваё выданьне

***У Берасьці пад назовам "Мяжа" пачаў выходзіць Інфармацыйны бюлетэнь мясцовае філіі Беларускага Праваабарончага Цэнтру "Вясна-96".***




Першы сёлетні нумар атрымаўся зьмястоўным і багатым на інфармацыю. Напачатку яго распавядаецца пра бестэрміновую акцыю пратэсту, якую мясцовыя праваабаронцы і сябры БНФ правялі на Каляды. Былі наладжаныя выпуск і распаўсюджваньне ўлётак супраць палітыкі прэзыдэнта Беларусі на аб'яднаньне Беларусі з Расіяй. Друкуюцца таксама паведамленьні і артыкулы: "Ці ня час скончыць бязглузьдзіцу", у якім В. Барболін расказвае пра арышт на Берасьцейскім рынку У. Вялічкіна, "Крымінальны баявік" — расповяд самога У.Вялічкіна пра ягоныя "ўзаемаадносіны" з міліцыянтамі напрацягу апошніх месяцаў, пра безпадстаўныя затрыманьні і суды, "Пamежнае бязьмежжа" — паведамленьне Р. Пазінкевіча пра інцыдэнт, што адбыўся на мяжы з Польшчай, "З плакатам на плошчу" і "Берасьцейская "партызанка" (аўтары А.Ахмач і У.Вялічкін) — пра тое, як сёлета ў Берасьці адзначаліся чарговыя ўгодкі з дня ўтварэньня БНР, "Як мяне перапісвалі" — Г. Самойленка распавядае пра канфлікт, што ўзьнік у яго, калі ён, сам рускі па нацыянальнасьці, выступіў супраць яўнай русіфікацыі, што адкрыта праводзілася падчас сёлетняга перапісу насельніцтва, "Дзень без чужога слова" — заклік А. Балашова і П. Панасюк да ўсіх беларусаў, каб не цураліся роднае мовы, каб кожны другі дзень месяца размаўлялі толькі на роднай мове і інш.

Заснавальнік, рэдактар і выдавец бюлетэню "Мяжа" кіраўнік мясцовае філіі "Вясны-96" У.Вялічкін. Наклад выданьня 299 асобнікаў, Адрас рэдакцыі: 224023, Берасьце-23, а/с 46.

Віншуем нашых калегаў з цікавым і даволі грунтоўным пачаткам і жадаем ім плёну ў працы і надалей.

## Алесь Вечар:

# "Ілжэсьведчаньню няма апраўданьняў!.."

Гісторыя гэтага чалавека – жывое сьведчаньне таго, як у нас ствараюцца штучныя кампраматы на вядомых людзей. У тым ліку (альбо нават у першую чаргу) – на вядомых палітыкаў. І зусім неабавязкова палітыкаў апазіцыйных. Прынамсі, людзі, пра якіх пойдзе гаворка, на момант разгортваньня падзеяў былі на высокіх пасадах. Прэса пісала пра іх штодня і ня згадвала ніводным нядобрым словам. Ворагамі ды злачынцамі іх абвесьцяць пазьней...

Я вельмі хацела б, каб з гісторыі мінчука Алеся Вечара зрабілі высновы тыя, хто зараз вымушаны служыць рэжыму ў нейкай іпастасі, закрываючы вочы альбо ня маючы магчымасьці сказаць слова нязгоды. Пакуль вы чытаеце гэтыя радкі – ня выключана, што такі самы "кампрамат" на вас спрабуюць выбіць з нейкага суайчынніка.

Перад кожным з нас рана ці позна паўстае выбар: воля альбо гонар. Абодва галоўныя героі гэтага артыкула выбралі другі варыянт, нават не зьяўляючыся знаёмымі і не дамаўляючыся. Міхаіл Чыгір у турме. Алесь Вечар адбыў тэрмін за тое, што ня стаў удзельнікам бруднай гульні супраць тагачаснага прэм'ер-міністра.

*"Мяне затрымалі 5-га чэрвеня 1996-га году. Проста затэлефанавалі супрацоўнікі міліцыі ды сказалі, што ім са мной трэба нешта ўдакладніць. Я за сабой парушэньняў ніякіх не адчуваў. Я займаўся цалкам законным бізнесам і навуковымі справамі – стварэньнем Інстытута перспектыўных тэхналогіяў пры Беларускай інжынернай акадэміі. Натуральна, я пагадзіўся на сустрэчу".*

Алеся павезьлі ў адзін з апорных пунктаў міліцыі ў Фрунзенскім раёне Мінску. Там жа пачалі прымушаць падпісаць загадзя падрыхтаваныя "паказаньні".

*"З гэтых "паказаньняў" вынікала, што нібыта я, разам з сынам Міхаіла Чыгіра, сынам Станіслава Багданкевіча і з Аляксандрам Пупейкам, арганізавалі злачынную групу, якая займалася буйнамаштабным крымінальным аўтабізнесам на тэрыторыі Заходняй Еўропы і краінаў СНД. Фінансавалася гэта ўсё нібыта пры ўдзеле старэйшага Багданкевіча, а пакрывалася – старэйшым Чыгірам. Натуральна, я гэткую лухту падпісваць адмовіўся".*

З Аляксандрам, сынам тагачаснага кіраўніка ўраду, Вечар быў знаёмы. З сем'ямі вядомых Пупейкі ды Багданкевіча — жыў па суседзтве. З гэтага ён ніколі не рабіў нейкай асаблівай таямніцы.

Пасьля адмовы падпісваць ілжывыя сьведчаньні пачаліся пагрозы сьледчых на адрас Алесевай сям'і. Асабліва "вясёлае" жыцьцё абяцалі наладзіць малому сыну і малодшаму брату. Алесь Вечар распавёў таксама, як яму рабілі ін'екцыі псіхатропнымі прэпаратамі. Менавіта іх праз тры гады дактары назавуць прычынай хваробы на цукровы дыябет: перанесеная цяжкая псіхічная траўма.

Фізічнай "апрацоўкі", праўда, не было, хоць побач з ім білі іншых затрыманых. Вечар, аднак, быў проста патрэбны сьледзтву без сьлядоў зьбіцьця.

*"Паводле плану тых, хто ўсё гэта задумаў, меркавалася, што "паказаньні" я павінен агучыць перад відэакамерай,"* — кажа Алесь. Рэжысёры сьпектаклю пад назвай "кампрамат на прэм'ера" разьлічылі дакладна. Інтэлігентна-імпазантная зьнешнасьць іхняй ахвяры добра падыходзіла для выкліканьня народнага гневу. Такому чалавеку, пакажы яго БТ, паверылі б.

Але быў у сьледзтва і іншага кшталту разьлік.

*"Я браў удзел практычна ва ўсіх акцыях Беларускага Народнага Фронту, пачынаючы з пабоішча ў Курапатах 30 кастрычніка 1988 году,* — распавядае Алесь Вечар. – *У мяне пыталіся, чаму я не хачу цяпер даць паказаньні супраць людзей, якія зьяўляюцца працаўнікамі Фронту. Пераконвалі, што, маўляў, і Пупейка, і Чыгір, і Багданкевіч заўсёды перашкаджалі БНФ. Як быццам для ілжэсьведчаньня могуць быць нейкія апраўданьні!.."*.

Непакоячыся за лёс родных, Алесь паабяцаў "падумаць", каб адцягнуць час. Неўзабаве даведаўся, што ягоная сям'я перабывае ў замежжы і ёй нішто цяпер не пагражае. Тады ён проста адмовіўся "супрацоўнічаць" прапанаваным раней яму чынам. Пасьля чаго Алесю было заяўлена недвухсэнсоўна: альбо ён падпісвае ілжэсьведчаньні – альбо садзіцца ў тарму па "цяжкім артыкуле".

Прыкладна ў той самы час міліцыя затрымала некалькіх маладых людзей, якія жылі ў адным з Вечарам раёне Мінску. Усіх Алесь ведаў у твар і хоць раз, ды бачыў непадалёк ад дому. Добра ня ведалі адзін аднаго, але пры сустрэчах віталіся. Маладых людзей абвінавацілі ў крадзяжах аўтамашынаў. Алеся сьледства імкнулася любымі шляхамі далучыць да гэтае справы як аднаго з членаў злачыннай банды. Потым у абвінаваўчым заключэньні будзе сьцьвярджацца, што Вечар Аляксандр Алімавіч, 1960 году нараджэньня,



Былы прэм'ер-міністр Міхаіл Чыгір цяпер за кратамі... На здымку — збор подпісаў за свабоду М. Чыгіру.

 



адукацыя вышэйшая, разам з Куцапалавым А.Н., Карунным А.В., Масакоўскім Ф.А., Чыжыкавым Ю.А. і Калтовічам Д.А., “дзейнічаючы ў складзе ўстойлівай арганізаванай групы з разьмеркаваньнем роляў, маючы адзіны намер на крадзяжы маёмасьці грамадзянаў у асабліва буйных памерах, у перыяд з сакавіка па травень 1996 году таемна зьдзейсьнілі шэраг крадзяжоў аўтатранспарту грамадзянаў”. Канкрэтна Вечару інкрымінаваўся ўдзел у крадзяжах машын 16, 22 і 29 траўня. Страты, нанесеныя ім грамадзянам, на думку сьледства, складалі 134 330 000 рублёў.

Перад тым як адправіць Вечара і яго "падзельнікаў" у сьледчы ізалятар, іх пратрымалі ў камеры часовага ўтрыманьня гарадзкога сьледчага ўпраўленьня тыдзень. У Алеся павінны былі сыйсьці сьляды ўколаў, у астатніх – сінякі ад зьбіцьця. Прычым метады ўзьдзеяньня зьбіцьцём не абмяжоўваліся. Аднаму з “арганізаванай групы” міліцыянты выбілі вока, на ўсё жыцьцё пакінуўшы інвалідам – так здабываліся “доказы віны”. Другога хлопца падвергні сексуальнаму гвалту, прымушаючы падпісаць патрэбныя сьледчым паперы. Апынуўшыся ў СІЗА, падсьледныя пачалі адмаўляцца ад дадзеных раней паказаньняў.

Калі А.Вечар адправіў у Маскоўскі суд сталіцы скаргу на незаконны арышт, яе разглядзелі ў адсутнасьць яго самога і ягонага адваката. Выпускаць Алеся з-за кратаў ніхто і ня думаў: напярэдадні сумна вядомага рэферэндума агалоска спробы скампраметаваць прэм’ер-міністра была проста небясьпечная для ўладаў, а маўчаць Вечар ня стаў бы. Тэрмін сьледства падаўжалі, а нічога новага ў справу ўжо ня ўносілася. Нават дата пачатку суда ў апошні момант была перанесеная з разьлікам, каб працэс пачаўся пазьней за рэферэндум...

Што да Алеся Вечара, то ні ў адным пункце гэтай справы ён не фігураваў як злачынца. Доказаў яўна бракавала. Не была даведзеная прысутнасьць Вечара на месцы злачынстваў. У адным з выпадкаў ён нават адсутнічаў у Мінску зусім. Не ўдалося даказаць і папярэднюю змову з іншымі, ужываньне разам з імі алкаголю (згодна з матэрыяламі справы, машыны кралі выключна ў стане алкагольнага ап’яненьня). Пры поўнай адсутнасьці доказаў віны Алесь Вечар быў прызнаны вінаватым. 15 сакавіка 1997 года Фрунзенскі раённы суд сталіцы прысудзіў яму 6 гадоў калоніі.

*“Мне далі большы тэрмін, чым знакамітаму ўгоншчыку самалёта з Беларусі ў Швецыю. Яму далі пяць гадоў, ён адбыў адзін, — адзначае Алесь. – Мяне прызналі вінаватым у злачынстве з ліку асабліва цяжкіх, за якія некалькі гадоў раней быў прадугледжаны расстрэл. Калі б у свой час Кебіч гэтага не адмяніў, мяне б маглі прыгаварыць і да расстрэлу”.*

3 студзеня 1997 г. Прэзідыум мінскага гарадскога суда перагледзеў справу і ў дачыненьні да А.Вечара адмяніў прысуд. Мера стрыманьня пакінутая тая ж, аднак пастаноўлена перагледзець справу ў судзе ў іншым складзе суддзяў. Такое ж самае рашэньне прыняла 17 сакавіка 1998 года судовая калегія па крымінальных справах Мінгарсуда. Абодва разы ў прынятых юрыстамі дакументах адзначаюцца адсутнасьць доказаў віны А.Вечара. У выніку Алесь быў выпушчаны з турмы толькі ў красавіку 1999 года – па амністыі...

Пасьля выхаду на волю Алесь сутыкнуўся з мноствам непрыемных сюрпрызаў. Даведку аб вызваленьні яму выдалі ў калоніі УЖ 15/25 трохі дзіўную: па словах Алеся, на ёй падроблены надпіс “Пашпарт атрымаў” і двойчы падроблены подпіс. Усяго гэтага ён на гэтым дакуменце не пісаў. Высьветлілася, што ў Фрунзенскім райваенкамаце раптам зьніклі ўліковыя дакументы Вечара. На запыт юрыдычнай кансультацыі Партызанскага раёна, дзе жыў пасьля турмы Алесь, райваенком А.Краўчанка адказаў, што Вечар ніколі не стаяў на ўліку, а ці зьяўляецца ліквідатарам аварыі на Чарнобыльскай АЭС – “ваенкамат дадзеных ня мае”. Такім чынам, Алесь страціў усе свае чарнобыльскія ільготы, адпаведнае пасьведчаньне ліквідатара, якое ён мае – як бы і несапраўднае. Без вайсковых дакументаў узьнікаюць праблемы з прапіскай, атрыманьнем пашпарту і г.д. Як на тое, пайшлі дзіўныя просьбы чыноўнікаў. Скажам, былая жонка Вечара, робячы дзіцяці замежны пашпарт, патрабавала натарыяльна завераную пісьмовую згоду бацькі свайго сына. А ёй у адказ: “Хай прыедзе асабіста і пакажа пашпарт”. Да іншых, у каго няма праблемаў з пашпартам, такіх патрабаваньняў не было. Супадзеньне?

Нагадаў пра сябе і цукровы дыябет, выкліканы ўколамі на сьледзтве. Толькі пасьля вызваленьня Алесь Вечар даведаўся, што яшчэ напачатку 1996-га году лекары прадпісвалі яму пастаянны кантроль узроўню цукру ў крыві. За ўвесь час зьняволеньня такога кантролю ніхто не праводзіў, нягледзячы на небясьпеку для жыцьця хворага. Магчыма, менавіта на гэтую небясьпеку і спадзяваліся тыя, хто праз “бэнээфаўца” Вечара хацеў прыбраць са шляху Лукашэнкі тагачаснага прэм’ера, кіраўніка Нацбанка ды знакамітага бізнесмена... Алесь перажыў турму, але цяпер яму адмовіў у ін’екцыях інсуліну ўрачэндакрынолаг мінскай паліклінікі N 20.

Два тыдні таму Алесь Вечар разьвітаўся з Радзімай. У рэшце рэшт яму ўдалося аднавіць некаторыя дакументы, і ён зьехаў у адну з дэмакратычных краінаў сьвету. Яшчэ напачатку 90-х ён некалькі разоў адхіляў прапановы сваіх калегаў-навукоўцаў паехаць на шматгадовую працу на Захад.

*“Яшчэ мой дзед, беларускі паэт, завяшчаў мне, беларусу, жыць і працаваць на Беларусі. У канцы 20-х гадоў, ён, галоўны рэдактар часопіса “Шляхі калектывізацыі”, за рэзкую крытыку “принудиловки” быў выключаны з партыі і пазбаўлены магчымасьці працаваць па сьпецыяльнасьці. Больш за 30 гадоў ён бадзяўся па бяскрайніх абшарах тагачаснага СССР, песьцячы мару вярнуцца на Бацькаўшчыну. Напачатку 60-х яна збылася – ён вярнуўся ў Мінск (а зьязджаў, дарэчы, з Менску) сусьветна вядомым біяхімікам... Яго таксама неаднойчы спрабавалі прымусіць выступіць супраць сваіх пераканаьняў – Лысенкаўшчына, барацьба з Вейсманізмам-марганізмам для мяне не абстракцыя, а гісторыя маёй сям’і. Не ілжэсьведчы, і табе не давядзецца потым тлумачыць прычыны, па якіх ты гэта рабіў”...*

Так сказаў у сваім апошнім слове Алесь Вечар на судовым працэсе. Так жыў і жыве...

**Тацяна СЬНІТКО**

*Пошта*

# Я НЕ ДАРУЮ

***Гэты ліст дасланы ня толькі на адрас "Вясны-96", але і прэзідэнта РБ, Генеральнага пракурора РБ, кіраўніка групы АБСЕ ў Беларусі, старшыні БХК. Мы друкуем яго без каментарыяў (у невялікім скарачэньні), паколькі тое, як абыходзяцца ў нас "слугі закону" з людзьмі простымі апісана тут дакладна...***

20 чэрвеня 1999 году раніцай я прыехаў з Наваполацка ў в. Заазер'е Лепельскага раёну, дзе ў бабулі на канікулах знаходзілася мая дачка Лена (1982 г. н.), і даведаўся, што незадоўга да майго прыезду яна была згвалтаваная адным з мясцовых хлопцаў. Усе ўжо ведалі пра гэта і чакалі мяне.

Адразу ж мы з дачкою паехалі ў райцэнтр Лепель, дзе зьвярнуліся ў міліцыю з заявай аб згвалтаваньні. Займацца разглядам заявы стаў памочнік пракурора міжраённай пракуратуры. Разам з супрацоўнікамі міліцыі ён гутарыў з дачкою, але мне прысутнічаць пры гутарцы забараніў, растлумачыўшы гэта тым, што дачка будзе саромецца мяне. Лічу, што гэта было парушэньнем законнага права маёй дачкі карыстацца падтрымкай свайго роднага ў цяжкія хвіліны.

Пратрымаўшы нас амаль цэлы дзень, памочнік пракурора даў дачцэ пастанову аб прызначэньні судмедэкспертызы і параіў ёй ня мыцца да панядзелка (потым выявілася, што судмедэксперт мог агледзець маю дачку, бо працаваў і ў выходныя).

У панядзелак памочнік пракурора сказаў нам, што з дачкою хоча пагаварыць сам пракурор. Я да яго прыехаў ня толькі з дачкою, але і са сваім прадстаўніком старшынём камісіі па законнасьці Наваполацкага гарсавету Л. Сапранецкім. Сакратар пракурора паведаміла, што дачка павінна ўвайсьці адна. Дачка выйшла з кабінета праз 3-4 хвіліны амаль непрытомная. Ад хваляваньня і крыўды яе ўсю трэсла. Бачачы стан дачкі, я павёз яе ў бальніцу. У прыёмны пакой была выкліканая "хуткая дапамога" і ўрачы — тэрапеўт і псіхіятр, якія з дапамогаю ўколаў прывялі дачку ў сьвядомасьць. Дачка распавяла, што калі яна ўвайшла да пракурора і сказала, што хацела б, каб з ёй разам быў бацька, пракурор накінуўся на яе: "Можа, табе яшчэ папа паклікаць?", а потым дадаў: "Я табе зараз такіх казак магу наскладаць..." Менавіта грубасьць пракурора і выклікала ў дачкі нярвовы зрыў.

І я, і наш прадстаўнік былі шакаваныя паводзінамі Лепельскага міжраённага пракурора В.А.Лапцэвіча. Дарэчы, адразу ж пасьля дачкі мы зайшлі да яго, але ён фактычна выгнаў нас з кабінета.

Чаму з маёй дачкою і са мною так абыйшліся? За больш чым двое сутак з моманту згвалтаваньня ніхто нават не дапытаў дачку. Медэспертызу затрымалі. Сарваную бялізну не знайшлі. Справу не ўзбудзілі. Дачцы наладзілі экзекуцыю, а са мною абыйшліся як з кацянём...

Я хачу, каб усе ведалі: я не дарую зганьбаванага гонару маёй дачкі. Я патрабую ўзбудзіць крымінальную справу і прыцягнуць нягодніка да адказнасьці. Акрамя таго, прашу строга пакараць пракурора — хама, слугу бандытаў , а не закону. Калі меры ня будуць прынятыя, я пакідаю за сабою права дзейнічаць самастойна па абароне сваіх правоў і інтарэсаў.

**В. К. КАВАЛЕЎСКІ**

 

# Падзеі Факты Каментары

(Пачатак на стар. 1)

*30 чэрвеня* напярэдадні дня вызваленьня Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў На беларускую вёску Мікалаеўка Сьветлагорскага раёну (Гомельская вобл.) адбыўся напад расійскага "ваенна-патрыятычнага" атраду "Беркут" з Сургуту. 130 чалавек ва ўніформе (падлеткі і іх выхавальнікі — ветэраны войнаў у Афганістане і Чачні) імітавалі захоп вёскі карнікамі, а пасьля — вызваленьне. Жыхары вёскі не былі праінфармаваныя пра правядзеньне "гульні", падчас якой былі ўжытыя дымавыя і выбуховыя прыстасаваньні, газавыя балончыкі. У час акцыі 20 чалавек вяскоўцаў былі сагнаныя ў школу ў якасьці заложнікаў, падлеткі ўрываліся ў хаты мірных жыхароў, людзям заломвалі рукі, кідалі на зямлю, брыдкасловілі. Над сельсаветам быў ўзьняты расійскі сьцяг. Фінасаваў гэтую акцыю прапрымальнік родам з Беларусі — Анатоль Сілівончык. Маральныя страты жыхарам вёскі Мікалаеўка ён паспрабаваў кампенсаваць з дапамогай дзьвюх скрыняў гарэлкі. Удзельнікі клуба "Беркут" былі затрыманыя ў г.Бабруйску. Падлеткаў і іх выхавальнікаў дэпартавалі з тэрыторыі Беларусі, а Сілівончык трапіў у СІЗА. Адвакат Анатоля Сілівончыка — Вера Страмкоўская. Падчас нападу на вёску Мікалаеўка былі парушаныя асноўныя правы грамадзянаў Беларусі. Стала вядома, што ўдзельнікі клуба "Беркут" прыехалі ў Беларусь па запрашэньні БПСМ — Беларускага патрыятычнага саюзу моладзі, створанага пасьля прыходу да ўлады А.Лукашэнкі і пад ягоным патранажам.

*У ліпені* стала вядома, што эксперты АБСЕ прызналі праект новага Выбарчага кодэкса Беларусі не падыходзячым "для выбараў, якія забясьпечылі б дэмакратычную легітымнасьць любой абранай асобе ці органу". Паводле Выбарчага кодэксу, які перададзены зараз для разгляду ў Палату прадстаўнікоў пралукашэнкаўскага Нацыянальнага сходу, у Беларусі будуць праходзіць усе наступныя выбары — ад мясцовых Саветаў да прэзідэнта, а таксама рэферэндумы. Усяго заўвагаў, зробленых АБСЕ, пятнаццаць. Сярод іх — пра немагчымасьць праводзіць датэрміновыя выбары на працягу пяці дзён з выкарыстаньнем перасоўных скрыняў ("назіраньне за такім відам галасаваньня немажлівае"), пра небясьпеку палажэньня, згодна з якім, калі ўсяго адзін працэнт подпісаў, сабраных за кандыдата, прызнаны несапраўдным, то ўсе подпісы таксама лічацца несапраўднымі ("Кандыдатура можа быць зьнятая з-за аднаго несапраўднага подпісу!")

*У ліпені* адвакат асуджанага да двух гадоў пазбаўленьня волі двойчы Героя сацпрацы Васіля Старавойтава Вера Страмкоўская заявіла, што яе падабаронны можа быць умоўна-датэрмінова вызвалены з-пад варты. Прысуд у дачыненьні да В.Старавойтава ўступіў у сілу. Адвакат і яе падабаронны адклікалі з Магілёўскага абласнога суда касацыйную скаргу. Заканчэньне працэсу над В.Старавойтавым паскорыць пачатак суда над былым міністрам сельскай гаспадаркі Васілём Лявонавым, які ўжо 18 месяцаў сядзіць у СІЗА па абвіначваньні ў хабарніцтве. В.Лявонаў выступіў у незалежным друку з адкрытым лістом да прэзідэнта Беларусі, у якім нагадвае, што калі ён быў першым сакратарам Магілёўскага абкама партыі, а А.Лукашэнка дырэктарам саўгаса "Гарадзец" гэтай вобласьці, дык ён абараніў Лукашэнку і не дазволіў яго арыштаваць па вядомай справе зьбіцьця А. Лукашэнкам трактарыстаў свайго саўгаса.

*У ліпені* рабочыя племзаводу "Новы двор" Сьвіслацкага раёну Гродзенскай вобласьці абвясьцілі забастоўку, якую распачалі трактарысты, адмовіўшыся ў самы разгар ўборкі сена выехаць у поле. Трактарыстаў падтрымалі жывёлаводы. Прычына — людзі ўжо 6 месяцаў не атрымліваюць заробку.

*У ліпені* стала вядома, што аб'яўлены вышук Юрася Мароза — актывіста Віцебскай Рады БНФ "Адраджэньне", які год таму папрасіў палітычнага прытулку ў Чэхіі.

*1-2 ліпеня* ў Гомелі прайшла акцыя пратэсту прыватных прадпрымальнікаў, якія гандлююць на Цэнтральным калгасным рынку. Акцыя праведзеная ў знак пратэсту супраць рашэньня ліквідаваць тут 1200 гандлёвых месцаў і вымусіць прадпрымальнікаў пераехаць гандляваць на новы рынак за горадам.

*5 ліпеня* ў інтэрв'ю "Белорусской газеце" Ала Мікалуцкая, ўдава старшыні Камітэту дзяржкантролю па Магілёўскай вобласьці Яўгена Мікалуцкага, сказала, што закрытае правядзеньне суда "па справе Мікалуцкага" было неапраўданым: "ніякіх дзяржаўных інтарэсаў матэрыялы справы не закраналі і ніякіх дзяржаўных таямніцаў не адкрывалі. Лічу, што суд павінен быў быць адкрытым. Можа, тады справядлівасьць перамагла б. Магчыма, асуджаныя — бандыты. Іх асудзілі менавіта за бандытызм. Не за забойства майго мужа. Па матэрыялах сьледства яны не фігуравалі нават як выканаўцы. На судзе я настойвала, каб аднаго з абвінавачаных вызвалілі... Заказчыкі забойства па-ранейшаму на свабодзе. А самі асуджаныя мне спачувалі. Яны глядзелі на мяне ў зале суда праз краты, паўтаралі: "Мы не вінаватыя. Мы адсядзім і разьбярэмся. Мы занойдзем сапраўдных вінаватых". Ала Мікалуцкая была разам са сваім мужам падчас выбуху ў пад'езьдзе іх дома 6 кастрычніка 1997 году. Яна атрымала значныя траўмы і трапіла ў бальніцу. Пасьля сьмерці мужа яна засталася бяз грошай, неабходных на лячэньне і без надзеі на прыцягненьне да адказнасьці забойцаў, хаця на жалобным мітынгу падчас пахаваньня Я.Мікалуцкага прэзідэнт А.Лукашэнка заявіў, што праваахоўным оргнам даецца 10 дзён на пошук забойцаў, што выклік злачыннага сьвету ім прыняты: "зямля будзе гарэць пад нагамі ў тых, хто пераступіў закон".

*6 ліпеня* не прыступілі да працы рабочыя асноўных цэхаў АТ "Орша". Рабочыя сабраліся каля ўпраўленьня заводу. Прычына страйку ў тым, што апошні раз зарплату давалі за красавік. Кіраўніцтва заводу паабяцала выплаціць грошы ў ліпені, але на патрабаваньне павысіць заробкі ў 2,5 разы не адказала ніяк.

*З 6 ліпеня* страйкавалі рабочыя аб"яднаньня "Мазырсельбуд" у Нароўлі. Рабочыя не атрымалі яшчэ заробак за вясновыя месяцы. Пры тым што сярэдняя зарплата — 5-10 млн. рубл. (прыкладна 10-20 даляраў ЗША). Кожную раніцу рабочыя прыходзілі на тэрыторыю прадпрыемства са сваімі сем'ямі — самаму маленькаму ўдзельніку страйку яшчэ няма году. Рабочыя кажуць, што ім "ужо няма на што купіць нават хлеба".

*7 ліпеня* ў Гродна некалькі соцень супрацоўнікаў ГВА "Азот" пікетавалі будынак адміністрацыі завода. Пікет ладзіў незалежны прафсаюз "Азота". Пікетоўцы патрабавалі павышэньня заробку і павелічэньня колькасьці адпачынкаў у летні перыяд.

*8 ліпеня* ўлады Навалацку забаранілі правядзеньне жалобнага шэсьця, прысьвечанага гадавіне



 

трагедыі — самаспаленьню адваката-праваабаронцы Аляксея Філіпчанкі каля будынка гарадзкога суда. Нагадаем, што А.Філіпчанка зрабіў гэта з мэтай пратэсту супраць спробаў уладаў адабраць кватэру ў А. Воранавай, якую ён абараняў... Навапалачане былі вымушаныя правесьці жалобнае шэсьце на месцы дазволенага ўладамі пікету — шэсьце нагадвала прагулку зьняволеных у турэмным дворыку. Прадстаўнікі праваабарончых арганізацыяў "Вясна-96", "Хартыя-97" і БХК пасьля заканчэньня пікету ўсклалі кветкі на месцы самаспаленьня А. Філіпчанкі і да яго магілы.

*8 ліпеня* ў Віцебску ў міжгарнізонным ваенным судзе скончыўся судовы працэс над Сяргеем Лавейкіным, Алегам Койдавым і Анатолем Блізьняцовым, якіх абвінавачвалі ў тым, што сёлета ўвесну яны сарвалі лукашэнкаўскі чырвона-зялёны сьцяг з будынка Полацкага райвыканкама. Адзін з хлопцаў служыць па кантракце ў войску і таму іх судзіў ваенны суд. Ад сваіх дзеяньняў хлопцы не адмовіліся, заявіўшы, што вырасьлі і набылі сацыяльна-палітычную сьвядомасьць пад беларускімі нацыянальнымі (тады дзяржаўнымі) бел-чырвона-белымі сьцягамі і не прымаюць чырвона-зялёных... Суд прызнаў хлопцаў вінаватымі і асудзіў: С. Лавейкіна і А. Койдава да штрафу ў 200 мільёнаў рублёў кожнага (прыблізна 800 даляраў), а А. Блізьняцова, які сьцяг не зрываў, бо стаяў "на шухеры", да 20 мільёнаў рублёў.

*8 ліпеня* на высакавольтнай апоры лініі электраперадач, што стаіць ля шашы Віцебск — Смаленск пры ўездзе ў г.Лёзна (Віцебская вобласьць) зьявіўся бел-чырвона-белы сьцяг. Да сьцягу была прымацаваная жалобная чорная стужка. Такім чынам невядомы "Мірон" (так называе сябе чалавек, які перыядычна вывешвае бел-чырвона-белыя сьцягі на Віцебшчыне) адзначыў 40 дзён з дня трагедыі на мінскай станцыі метро "Няміга".

*10 ліпеня* ў мінскім Палацы ветэранаў у паўканспіратыўных умовах прайшоў Першы Нацыянальны зьезд рабочых. На зьезьдзе прысутнічала 315 дэлегатаў-рабочых з 42 гарадоў Беларусі, якія прадстаўлялі 287 прадпрыемстваў. Рабочыя зьвярнуліся да А.Лукашэнкі з просьбай дабрахвотна пайсьці ў адстаўку 20 ліпеня. Калі ён ня зробіць гэта, рабочыя абяцаюць распачаць масавыя акцыі супраць незаконнага захопу ўлады і дыктатуры.

*11 ліпеня* быў забаронены мінскімі гарадзкімі ўладамі дазволены раней антыфашысцкі мітынг і рок-канцэрт вядомых беларускіх гуртоў. Падставай для забароны стала адсутнасьць пашпарту на гукаўзмацняльную апаратуру, што нібыта магло прывесьці да пажару. Між іншым, антыфашысцкія акцыі ў Беларусі забараняюцца з дзіўнай заканамернасьцю, у той час як на дзеяньні прафашысцкіх арганізацыяў ніхто не зьвяртае ўвагі.

*11 ліпеня* ў адным з санаторыяў пад Лепелем (Віцебская вобласьць) прайшла дзелавая сустрэча сяброў аргкамітэту па стварэньні Саюзу афіцэраў Беларусі — грамадзкага аб'яднаньня, пра арганізацыю якога заявіў былы міністр унутраных справаў Юры Захаранка. Пасьля раптоўнага зьнікненьня Ю.Захаранкі (дагэтуль лёс ягоны невядомы) справу стварэньня Саюзу афіцэраў падхапілі ягоныя паплечнікі. Падчас сустрэчы абмеркаваныя задачы новай арганізацыі і формы яе супрацоўніцтва з Лігай афіцэраў міліцыі.

*З 12 ліпеня* на Магілёўскім аўтазаводзе зноў распачаліся страйкі рабочых. Раней рабочыя, паверыўшы дырэктару завода, што зарплата за травень будзе выплачана ў бліжэйшы час, страйк прыпынілі. Але дырэктар, не выканаўшы абяцаньня, зьехаў у адпачынак. Кіраўніцтва МаАЗа зноў паабяцала, што ў бліжэйшы час заробак будзе выплачаны. На што рабочыя адказалі: калі зноў будзе падман, то страйк стане бестэрміновым.

*21 ліпеня* — пачатак судовага працэсу над дэпутатам Вярхоўнага Савета 13-га сліканьня Андрэем Клімавым. 28 чэрвеня справа дэпутата Вярхоўнага Савета 13-га скліканьня Андрэя Клімава перададзеная ў Ленінскі суд г. Мінска. А.Клімаў утрымліваецца пад вартай з 11 лютага 1998 г. Яго абвінавачваюць у шэрагу эканамічных злачынстваў, але А.Клімаў вінаватым сябе не прызнае і сьцьвярджае, што яго перасьледуюць за крытыку прэзідэнта А.Лукашэнкі. Знаходзячыся пад вартай А.Клімаў адмаўляўся ад удзелу ў сьледчых дзеяньнях, пратэстуючы супраць парушэньня дэпутацкай недатыкальнасьці.

# Пагаравалі і зьмірыліся...

## *Рэаліі нашага жыцьця*

У Мінску, на прасьпекце "Известий", гады тры таму пачалося будаўніцтва. Будавалі пасёлак катэджаў. Зараз ён ужо заселены і радуе вока жыхароў Паўднёвага Захаду. Будаўніцтвам займалася акцыянернае таварыства "Забудова".

Катэджы проста шыкоўныя. Мне ўдалося пабываць усярэдзіне некалькіх з іх і я прыйшоў да высновы: вось так і павінен жыць чалавек. Праўда, ня кожны, а той, у каго знайшліся "вольныя" 50-100 тысяч даляраў. Зямля ў нас у рысе горада – дарагая... Тут вось і пераходзім мы да ўласна праблемы.

Побач з катэджамі, за белым бетонным плотам знаходзіцца вёска Дворышча. Вёска была калгасная і некалі ўваходзіла ў склад сельсавета. Паколькі горад Мінск разрастаўся, падобна пляме нафты на вадзе, то ў нейкі момант вёска апынулася на яго тэрыторыі.

Тут жыве шмат былых калгаснікаў. Хто маладзейшы — даўно працуе ў горадзе, а старыя займаюцца гаспадаркай. Гэта дае (дакладней, давала) устойлівы дадатак да сьціплай калгаснай пенсіі і дазваляла зводзіць канцы з канцамі. Само сабою, калі ёсьць жывёла, то без агарода – ніяк. Адно без аднаго не існуе. Некалькі гадоў таму ў вёску зьявіліся нейкія людзі, яны хадзілі па агародах і нешта вымяралі. На пытаньні жыхароў вёскі людзі адказвалі скупа і неахвотна: "Будаваць будзем". Далей высьветлілася, што будаваць будуць катэджы і з гэтай нагоды будуць адразаць участкі. Сказана – зроблена. "Абрэзаныя" пачалі было складаць лісты ў вышэйшыя інстанцыі і зьбіраць подпісы, але гэта нічым ня скончылася.

Катэджы цяпер стаяць, агароды абрэзаныя, людзі паступова прывыклі да новага суседзтва. У вясёленькія домікі засяліліся жыхары, раз-пораз падкатваюць іншамаркі, з іх выходзяць упэўненыя сытыя людзі цьвітучага ўзросту, — усё нармальна.

Калі разабрацца: хто тут і ў чым парушыў закон? Ніхто і ні ў чым. Зямлю пад будаўніцтва сваім рашэньнем адвёў Мінгарвыканкам. Цалкам законна. Справа ў тым, што ў большасьці жыхароў Дворышчаў прысядзібныя ўчасткі былі па 40-50 сотак, як звычайна ў вёсках, але ў горадзе гэта ня ёсьць норма. Норма тут – 15 сотак. Так што плошчу ўчасткаў проста прывялі ў адпаведнасьць з "агульнапрынятай" нормай.

Акцыянернае таварыства "Забудова", вядома ж, заплаціла гораду пэўныя грошы за права на будаўніцтва. Таварыству, у сваю чаргу, заплацілі заказчыкі. Такім чынам, усе ўсім заплацілі. Усім, акрамя тых людзей, у якіх абрэзалі агароды. Яны пакрыўджаныя, але выходзіць так, што іх крыўда беспадстаўная. Бо зямлю ў іх адабралі законна. Дакладней, паводле нашых законаў, якія правы ўласнікаў ня ўлічваюць. Бо, па вялікім рахунку, у нас і няма ніякай уласнасьці, апроч дзяржаўнай. А таму — няхай не радуюцца тыя, хто пасяліўся ў новенькіх катэджах: дсйдуць і да іх "дзяржаўныя" рукі.

На што могуць разьлічваць жыхары Дворышчаў? Ды ні на што, бо зямля не зьяўляецца іх уласнасьцю. У нас няма прыватнай уласнасьці на зямлю. Нават фермер, калі гаворыць: "Я валодаю 100 гектарамі зямлі", прашу прабачэньня, хлусіць. Па сутнасці, на зямлі ён толькі арандатар. Вядома, можна перадаць зямлю нашчадкам. Але прадаць – нельга. Якая ж гэта тады прыватная ўласнасьць? Да таго ж, зямлю ў фермера адабраць лягчэй, чым гэта здаецца. Дастаткова яму пасварыцца з раённым начальствам, і ніякі суд не дапаможа, бо ён найперш стаіць на ахове інтарэсаў улады.

Жыхары Дворышчаў ведаюць гэта эмпірычна, на падставе жыцьцёвага вопыту. Ім зямлю то давалі, то адбіралі, у залежнасьці ад стратэгічных мэтаў тагачаснага кіраўніцтва савецкай дзяржавы. Зараз у чарговы раз адабралі...

І таму сёньня ў вёсцы Дворышча ніхто не бунтуе... Пагаравалі і зьмірыліся. Ці ж першы раз дзяржава ў іх нешта адбірае...

**Сяргей ШАЎЦОЎ**





 

Аляксей ШЫДЛОЎСКІ

# Васемнаццаць месяцаў у пекле

## IY. Валадарка. Менск.

І вось надышоў той дзень, калі нас з Вадзімам Лабковічам пасадзілі ў "сталыпін" і этапавалі ў Мінск. "Сталыпін"— гэта сьпецыяльны вагон, які звычайна чапляецца да цягнікоў, што ідуць уначы. Вагон цалкам металічны, унутры падзелены на шэсьць камераў-купэ. Паліцаў у "купэ" па тры з кожнага боку, а не па дзьве, як у звычайным вагоне. Сам па сабе "сталыпін" не такі ўжо і страшны, але ж у яго трэба яшчэ патрапіць. А гэта працэдура ня надта хуткая...

У дзьве гадзіны ночы нас прывезьлі на Жодзінскі вакзал і высадзілі проста на сьнег. Усіх пяцьдзесят вязьняў, якія этапаваліся ў той дзень, прымусілі прысесьці на кукішкі, пакласьці рукі за галаву і ўзірацца ў сьнег пад нагамі. Мароз быў ня менш за пятнаццаць градусаў, і праз пяць хвілінаў такога сядзеньня стала невыносна холадна, цела заклякла. Праз дзесяць хвілінаў— жаданьне ўстаць і разьмяць косьці стала нястрымным. Аднак з дзесятак аўтаматчыкаў па баках раз-пораз гучна папярэджвалі: "Крок улева, крок управа – спроба ўцёкаў..." і не давалі нават паварушыцца. Праз 30 хвілінаў пачало рабіцца млосна, цела хілілася ў сьнег... Пакуль падыйшоў цягнік з прычэпленым да яго "сталыпінам" я ледзь ня страціў прытомнасьць. Яшчэ пяць хвілінаў – і ўсіх загналі ў вагон. У суседнім купэ- камеры аказаліся жанчыны, якія гучна сьпявалі "таганку" і прасілі зэкаў-мужчынаў паказаць ім чэлес. Ахове гэта не спадабалася і яна, пагражаючы "дубіналамі" (гумавымі палкамі), прымусіла ўсіх суцішыцца.

Шлях з Жодзіна да Мінску ня доўгі, час пралятае хутка. І вось ужо паўторная працэдура сядзеньня на сьнезе ў чаканьні "варанка" ў палове чацьвёртай раніцы на станцыі Мінск-Усходні. Вязьняў "састрыгаюць": каго ў Мінскую зону, каго на "Валадарку", каго ў "Навінкі".

Нас з В.Лабковічам пасадзілі ў адзін адсек аўтазэка, што дало магчымасьць крыху пагаманіць. Праязджаючы па цэнтральных вуліцах, паўз прасьпект мы міжволі ўголас уздыхаем. Во-ля... Яна так блізка. І так далёка...

"Валадарка" сустрэла нас цішынёй. Паўп'яныя ахоўнікі былі соннымі і ня дужа актыўнічалі. Па жодзінскай звычцы я адразу адвярнуўся, ўпёрся вачыма ў сьцяну і склаў рукі за сьпіной. І тут жа пачуў збоку паблажлівы сьмех і пытаньне:

— Напэўна, з Жодзіна?

Я павярнуўся і не паверыў сваім вачам. Казаў гэта ня мент, а сусед-зэк, які стаяў спакойна, паклаўшы рукі ў кішэні. І пры гэтым на яго ня сыпаліся ўдары ахоўнікаў, як было ў Жодзіна.

— Ты адвыкай, тут рэжым іншы...

Гэта адчувалася адразу. За суткі, праведзеныя ў адстойніку да разьмеркаваньня па камерах, шмат чаму тут давя-



Аляксей Шыдлоўскі — савецкі акцябронак.

лося падзівіцца. На вечаровай праверцы, пры ўваходзе міліцыянта, я па звычцы ўскочыў і ўжо набраў паветра ў грудзі, каб павітацца, як заўважыў, што астатнія толькі паднялі галовы — засьведчыць, што жывыя. Міліцыянт моўчкі падлічыў усіх і выйшаў.

Назаўтра мяне разьмеркавалі ў камеру №49. Тут я ў поўнай меры адчуў розьніцу між Мінскім СІЗА з Жодзінскім.

Па-першае, на "Валадарцы" захаваны з савецкіх часоў інстытут "наглядаючых" — камеры, корпуса, СІЗА. Звычайна гэта тыя зэкі, якія жывуць "па паняцьцях" і лічаць сябе лепшымі за астатніх. Яны кіруюць у камеры ўсім і ўсімі і ўвогуле маюць уладу большую за міліцыянтаў. У 49-ай камеры на момант майго патрапленьня туды было 22 чалавекі на 14 месцаў – даволі прасторна ў параўнаньні з Жодзіна. Тут я ўпершыню ўбачыў працэс "апусканьня". Адзін васемнаццацігадовы хлопец Віталь у прыватнай гутарцы з "наглядаючымі" пахваліўся, што на волі задавальняў жанчыну шляхам аральнага сексу. Ён быў тут жа жорстка зьбіты і адпіханы нагамі да прыбіральні, дзе і сядзеў потым увесь час да адпраўкі на зону. У яго абавязкі ўваходзіла мыцьцё прыбіральні. Лізу (новае імя Віталя) штодзень зьбівалі да страты прытомнасьці, а калі яму прыходзіла перадача, то палову сабе забіралі "нагляда очыя".

Увогуле, сітуацыя ў камеры была невыноснай, увесь час кагосьці зьбівалі, а "пеўняў" (апушчаных) праз тыдзень стала ужо тры. Прычым адзін з іх штовечар прымусова задавальняў сексуальныя патрэбы "братвы".

У мяне з гэтаю "братвою" адносіны ня склаліся з самага пачатку, бо па натуры сваёй я настроены супраць гвалту, крыміналу. Мяне ў 49-ай камеры не палюбілі за тое, што не хаваў свае гідлівасьці да таго, што рабілася там. І хаця мяне не чапалі, я ўсё ж зрабіў вострую заточку, якую насіў у рукаве, каб, калі што, было чым адбівацца. Аднак мяне, здаецца, тут пабойваліся.

Дарэчы, можа гэта не характарызуе агульны стан рэчаў, але двое з чатырох "наглядаючых" былі расейцы, і тое, што я з БНФ, іх асабліва злавала. Тое, што робіцца ў камеры, урэшце стала вядома міліцыянтам і аднойчы ўвечары ўсіх нас моцна зьбілі, а тых двух расейцаў перакінулі ў іншыя "хаты". Пасьля гэтага ў нас усталявалася больш-меньш нармальная атмасфера.

Назаўтра мяне, зьбітага напярэдадні, выклікалі да адваката, якая паведаміла, што пасьлязаўтра – суд. Пасьля прысуду "зэк" перакідваецца ў іншую камеру. Таму я, ведаючы, што праз пару дзён мяне ў 49-ай ужо ня будзе, па шчырасьці пагаварыў з адным забойцам з Барысава — сталым мужчынам, які меў негалосны аўтарытэт у камеры. Я выказаў думку, што ўсе гэтыя законы, якія пануюць на Валадарцы, і якіх няма ў "Чорным бусьле" — толькі ўскладняюць жыцьцё вязьням. Напрыклад, каля трэці плошчы камеры знаходзіцца за так званым "парапетам". Над гэтым месцам трэба вешаць вопратку сушыцца, гатаваць сабе ежу, мыцца, чысьціць зубы. Аднак усё, што за гэтым "парапетам" упадзе на падлогу – лічыцца "запарафіненым" і выкідваецца. Бывала што вяроўка, на якой сушылася вопратка – абрывалася, і тады ўсё адзеньне, якое там вісела, даводзілася выкідваць у сьметніцу! Тое ж адбывалася і з мылам ці ручніком, якія выпадкова падалі на падлогу. "Аўтарытэт" са мною цалкам пагадзіўся, але сказаў, што зараз нічога зьмяніць нельга, павінен прайсьці яшчэ вельмі доўгі час, пакуль да большасьці гэта дойдзе...

18 лютага нас з В.Лабковічам павезьлі ў суд. Уразіла колькасьць ахоўнікаў: дванаццаць чалавек з сабакам і тое, што на аўтазэку нас везьлі толькі дваіх — усё астатняе месца займалі міліцыянты. Прыкладна ў дзесяць гадзінаў нас прывезьлі ў будынак Мінскага абласнога суда і пасадзілі ў "стакан" (камера, разлічаная на аднаго чалавека). Праз некаторы час я заўважыў, што міліцыянты пачалі хвалявацца, і раз-пораз раіцца з некім па тэлефоне. Урэшце нас адважыліся весьці ў залу пасяджэньняў. Ужо здалёк я пачуў нейкі гул, які нарастаў і ўзмацняўся з кожным крокам. Калі ж дзьверы ў залу адчыніліся, ад убачанага перахапіла дыханьне. Вядома, мы чакалі асаблівае ўвагі да нас, але такога і ўявіць сабе не маглі! Фота, тэлекамеры, дыктафоны скіраваныя ў наш бок, а галоўнае – з добрую сотню чалавек у зале і значна больш за яе межамі. Ад скандыраваньня "Жыве Беларусь!" хацелася плакаць — так гэта кранала душу, так надавала моцы дзеля далейшага змаганьня.

Апісваць судовы працэс падрабязна няма сэнсу – ён быў досыць шырока асьветлены. Скажу толькі, што тыя чатыры дні зрабілі на мяне найвялікшае ўражаньне і дасюль застаюцца найярчэйшымі ўспамінамі майго жыцьця.

*(Працяг будзе)*

---

*Працяг.*
*Пачатак у №№ 31-34, 36.*

**Права на волю. Бюлетэнь Праваабарончага Цэнтру "Вясна-96". Выходзіць два разы на месяц на беларускай, ангельскай і рускай мовах. Наклад 299 асобнікаў. Адрас рэдакцыі: 220007 Менск, а/с 88. E-mal:rights@v96.open. by Рэдактар Алесь БЯЛЯЦКІ. Пры передруку абавязковая спасылка на бюлетэнь.**

*У нумары скарыстаныя малюнкі А. Карповіча і фотаздымкі з архіву Цэнтра "Вясна-96"*